


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 верасня 2004 года

№ 39 (490)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18


**Навіны рэгіёну**

## Золата Афінаў – у маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА–АФІНЫ. Ігар Фартунаў 22 верасня заваяваў залаты медаль на Паралімпійскіх гульнях у лёгкаатлетычным пяціборстве. Днём раней, 21 верасня, Фартунаў выйграў серабро ў скачках у даўжыню.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Прыгажуня Юлія

ВІЛЕЙКА. 20-гадовая гараджанка Юлія Раманоўская прыме ўдзел у Нацыянальным конкурсе прыгажосці "Міс Беларусь-2004". Віляйчанка вучыцца ў сталіцы на III курсе экалагічнага універсітэта імя Сахарава. Яна мае тытул "Міс Міншчына-2004".

Ірына РАБУШКА.

## Паглядзім

АСТРАВЕЦ. Кадэцкі клас з гімназіі №1 паедзе гледачамі на чэмпіянат свету па пажарным спорце, што распачнецца 24 верасня ў Мінску. Арганізатары паездкі – аддзел па надзвычайных сітуацыях.

Ірына РАБУШКА.

## Зноў у сад

ВАЛОЖЫН. Дваццаць пяць дашкольнікаў вёскі Багданава зноў могуць наведваць дзіцячы сад, дзе на працягу трох месяцаў ішлі рамонтныя работы. Спецыяльна да гэтай падзеі аддзел адукацыі райвыканкама падарыў установе халадзільнік-маразільнік.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Экафорум

СМАРГОНЬ. У аўторак тут прайшоў 2-гі абласны экалагічны форум. Гэта вынік работы гараййінспекцыі па ахове навакольнага асяроддзя. Збіраліся спецыялісты абласных інспекцый па ахове навакольнага асяроддзя, а таксама 17 райінспекцый.

Тарэса КУМІШЧА.

## Старадаўняя знаходка

МЯДЗЕЛ. Пры рамонце даху Будслаўскага касцёла будаўнікі адшукалі незвычайную знаходку — старадаўня вагі. На іх ёсць і дата — 1776 год. Верагодна, што засталіся яны тут ад будаўніцтва новага мураванага касцёла, якое пачалося ў 1770-м годзе.

Аддзел інфармацыі «РГ».

## Свята мытні

АШМЯНЫ. Прафесійнае свята адзначылі мытнікі 20 верасня ў раённым Доме культуры. Адбыўся канцэрт, які складаўся з народнага і эстраднага аддзяленняў.

Сяргей ЗЯНЬКО.

# Кідаем курыць...

**Імпартныя цыгарэты "Magna" і "Bond" зніклі апошнім часам з магазінаў і кіёскаў. Сярод курцоў, якія аддавалі перавагу менавіта гэтым маркам, факт знікнення хутка пачаў абрастаць чуткамі і домысламі. Адны казалі пра праблемы з імпартам і акцызнымі маркамі, іншыя – пра тое, што спецыялісты знайшлі ў цыгарэтах нешта супернебяспечнае для здароўя.**



У студэнцкія гады цыгарэта дакурваецца да пазногцяў...

Фота ByMedia.Net.

"Курэнне – марудная смерць", – сцвярджаюць тыя, хто не курыць. "А мы і не спяшаемся", – адказваюць заядлыя курцы. Барацьба з тытунём набыла апошнім часам сусветны маштаб. Тым не менш у крамах і камерцыйных кіёсках недахопу ў цыгарэтнай прадукцыі няма. На любы густ і на любы памер кашалька. Ад вырабаў Гродзенскай тытунёвай фабрыкі да вядомых імпартных марак – "Marlboro" ці "Camel".

Распаўсюджваннем і продажам аптовых партый цыгарэт у краіне займаюцца 4 фірмы. Іх рэгіянальныя прадстаўнікі бяруць тавар са складоў у Мінску і рэалізуюць сярод мясцовых прадпрымальнікаў, якія маюць ліцэнзію на продаж тытунёвых вырабаў. Сярод гэтых чатырох – дзве асноўныя, што займаюцца найбольш папулярнымі сярод курцоў маркамі. Форма ўласнасці адной з іх – дзяржаўнае вытворча–гандлёвае унітарнае прадпрыемства. Гэта фірма рэалізуе ўсе вырабы Гродзенскай тытунёвай фабрыкі і такія імпартныя цыгарэты, як "Camel", "West", "Winston", "Monte-carlo", да нядаўняга часу "Magna" і інш. Другая фірма – замежнае таварыства з абмежаванай адказнасцю. Сярод іншых марак яна прадае "Marlboro", "LM" і прадавала зніклыя цяпер "Bond" і "Союз–Аполлон".

Па ліцэнзіі замежных кампаній імпартныя цыгарэты вырабляюць у Расіі і Украіне. Адтуль яны і трапляюць у Беларусь. Нягледзячы на тое, што курэнне небяспечна для здароўя ў прынцыпе, тым не менш усё роўна існуюць дзяржаўныя стандарты, якім павінна адпавядаць якасць цыгарэт. Накладная, якая суправаджае партыю тытуню, уключае ў сабе сертыфікат, даведку Міністэрства аховы здароўя, мытную дэкларацыю і акцызную марку з нумарам і серыяй.

"Magna" і "Bond" – адны з першых імпартных цыгарэт, якія з'явіліся ў нас яшчэ ў часы Савецкага Саюза напрыканцы 80–х – пачатку 90–х гадоў мінулага стагоддзя. Курылі іх прадстаўнікі так званага "сярэдняга класа", а таксама студэнты. Яны айчынную тытунёвую прадукцыю з–за характэрнага прысмаку родных палескіх пянькоў называлі тады не інакш як "смурод у паперцы". З іншага боку на вельмі цывільныя "LM", "Marlboro" ці "Camel" проста не хапала грошай. Таму "Magna" і "Bond" былі якраз тымі цыгарэтамі, выраблёнымі з тытунёў амерыканскага тыпу, якімі і пачаставаць каго–небудзь не сорамна, і цана на кішэні надта не біла.

Ужо больш за месяц іх немагчыма знайсці ў продажы. Фірмы–распаўсюджвальнікі вельмі неахвотна каментуюць сітуацыю. Маўляў, камерцыйная тайна. Карэспандэнту "РГ" са слоў супрацоўнікаў адной з такіх фірм удалося высвятліць, што, у прыватнасці, "Magna" была знятая з вытворчасці больш за два месяцы таму. А закуплялі яе на тытунёвай фабрыцы ў Санкт–Пецярбургу. Апошнім часам рэалізоўвалі тое, што засталося на складах. Нядаўна з Піцера прыйшла, бадай, апошняя невялікая партыя. Хопіць яе не больш, чым на месяц. Магчыма, неўзабаве гэтыя цыгарэты пачнуць вырабляць у нашай краіне. Але ці адбудзецца гэта, а калі адбудзецца, то ці захаваецца якасць, – пакуль сказаць цяжка. Сапраўдныя прычыны, па якіх расійскія вытворцы адмовіліся ад выпуску цыгарэт "Magna", высветліць цяжка. Гавораць пра нерэнтабельнасць. Чуткі пра тое, што ў тытуню гэтай маркі знайшлі нейкія надзвычай шкодныя рэчывы, хутчэй за ўсё сапраўды проста чуткі.

Сяргей ЗЯНЬКО.

## Дарослыя вучні



Цяпер у маладзечанскай дзіцячай музычнай школе можна навучыцца іграць на любым інструменце нават калі вам за 50 гадоў.

2-я старонка

## Кандыдаты вызначаныя



Акруговыя выбарчыя камісіі закончылі 16 верасня рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты.

5-я старонка

## Як я шукаў работу



"Тут толькі дурні ды п'яніцы застаюцца", – сказалі па тэлефоне маладому спецыялісту, які шукаў работу.

7-я старонка

■ АДУКАЦЫЯ

# Дарослыя вучні

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяпер у дзіцячай музычнай школе (ДМШ) можна навучыцца іграць на любым інструменце нават калі вам за 50 год. Сёлета сям'я музыкантаў пабагацела і на выкладчыка сучасных электронных клавішных інструментаў, якія да гэтага ва ўстанове ўвогуле ніхто не выкладаў.**

Так, узрост вучняў школы неабмежаваны, так як і разнастайнасць музычных інструментаў. Аб гэтым можна ўпэўніцца на занятках музычнай студыі, якая працуе пры ДМШ. Самаму малодшаму вучню — 7 год, старэйшаму – 51. Сюды прыходзяць дзеці, якія не прайшлі па конкурсе і, адпаведна, не паступілі ў музычную школу, тыя, хто не падыходзіць па ўзросце для вучобы тут. Напрыклад, на скрыпку ці фартэпіяна бяруць з 6-8 год. У студыі займаюцца і дарослыя, што хочуць навучыцца іграць на абраным інструменце. Напачатку навучальнага года выхаванкай студыі стала 32-гадовая дзяўчына, душа і сэрца якой належаць скрыпцы. А вось 36-гадовы вучань выбраў сабе сучасныя электронныя клавішныя інструменты. Па словах выкладчыцы па гэтых інструментах **Надзеі Пшанічнай**, выхаванец вельмі ўпарты і захоплены, хоча навучыцца падбіраць на слых вядомыя папулярныя песні. Дарэчы, летась ён вучыўся ігры на фартэпіяна. Як сцвярджае кіраўнік музычнай студыі **Ірына Панкавец**, і малыя, і дарослыя займаюцца сабе на задавальненне. Аб адным шкадуе педагог: "Няма сямейных ансамбляў ці дуэтаў."

Студыйцам прапанаваны абмежаваны набор класічных прадметаў, меншы, чым у звычайных вучняў дзіцячай музычнай школы. Выхаванцы студыі займаюцца па паскораным курсе, на дастаткова вядомым музычным матэрыяле, накшталт шлягераў. Шмат хто хоча пець і адначасова акампанаваць сабе. Большая частка занияткаў аддадзена найгалоўнейшай мэце студыйцаў — навучанню ігры на тым ці іншым інструменце. Каб стаць выхаванцам такога незвычайнага аб'яднання, дзе займаюцца і дзеці, і дарослыя, уступныя экзамены здаваць не трэба – варта толькі мець жаданне для здзяйснення запаветнай мары.

Напрыклад, такое, як было ў дырэктара ДМШ Бэці Аўдзеенкі, якая і стварыла амаль тры гады таму гэтую студыю. Па словах калег, яна заўсёды шукае новыя шляхі ў навучанні, бо класічная адукацыя – аднолькавая з года ў год – наваявае нудоту.

За мяжой вельмі распаўсюджаныя студыі такога кшталту, вучоба ў якіх больш танная ў параўнанні з музычнай школай. Ірына Панкавец добра памятае 78-гадовую выхаванку, што вучылася ігры на фартэпіяна ў адной з нямецкіх студый.


Выкладчыца сучасных электронных клавішных інструментаў маладзечанскай дзіцячай музычнай школы Надзея Пшанічная. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Нашыя ж студыйцы ладзяць канцэрты. Выступаць ніхто не прымушае. Малыя і дарослыя вучні імкнуцца на сцэну. Маўляў, на гэтыя падмосткі выходзяць сапраўдныя артысты, музыканты, з іншых гарадоў прыязджаюць.

Сёлета адміністрацыя дзіцячай музычнай школы і педагагічны калектыў распрацоўваюць пасведчанне аб заканчэнні вучобы ў студыі. Яго ўручацць тым, хто займаўся 3 і больш год.

Сыходзяць са студыі вучні зрэдку. Калі толькі падлеткі, якім музыка здаецца "лёгкім" хлебам. Застаюцца самыя апантаныя і ўпартыя. І, канешне ж, не менш за сваіх выхаванцаў захопленыя музыкай выкладчыкі. Напрыклад, Надзея Пшанічная самастойна адолела ігру на электронных клавішных інструментах. Цяпер дзеліцца ведамі з іншымі. Гэта не адзіны музычны інструмент, якім валодае Надзея. Першым быў акардэон. Вельмі бацькі хацелі, каб дачушка зайграла на ім, вось і павялі ў музычную школу на роднай Магілёўшчыне. Потым вучылася ў Магілёўскім музычным вучылішчы. З верасня Надзея Пшанічная —малады спецыяліст маладзечанскай ДМШ. У марах — стварыць уласны эстрадны ансамбль. І, вядома, бачыць вынікі сваёй працы ў рабоце з вучнямі, радавацца іх поспехам.

Цяпер у музычнай школе можна навучыцца іграць, бадай, на ўсіх інструментах, акрамя толькі арфы і аргана. Дык жа на якія грошы і дзе іх купіць, ды яка кватэра патрэбна, каб трымаць іх для хатніх заняткаў, што вельмі неабходна? Бо, паводле слоў Ірыны Панкавец, вучыцца іграць на музычным інструменце і не мець яго — тое самае, што вучыцца плаваць, гледзячы на басейн.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Роздум пра бульбу

У прыгарадны цягнік не ўціснуцца. У вагонах, і нават тамбуры, паўнютка людзей. Нічога дзіўнага, прыйшоў час капаць бульбу.

Тут-тук, тук-тук, — выстукваюць вагонныя колы. Праязджаем Сечкі, Палачаны, Беразінскае. Нягледзячы на ранні час, на полі, бы на фэсце. "Бач, як некаму пашанціла, – дзівіцца жанчына, што сядзіць побач. — Дзевяць гадзін раніцы, а ў іх ужо столькі мяшкоў. Іншы чалавек, калі бульба не ўродзіць, і за дзень гэтулькі не накапае".

Кожнаму, як кажуць, сваё. Але многія вяскоўцы, ды і дачнікі, наракаюць на сёлетні небагаты ўраджай. Прапала бульба ў многіх населеных пунктах Мядзельшчыны, не могуць пахваліцца ёй і на Валожыншчыне. Кажуць, нашкодзілі, не даўшы гароднінe адцвісці, чэрвеньскія прымаразкі. "Сланяюся цэлае ранне па двары, – дзеліцца суседка, – знаходжу сабе нейкую работу, толькі б на поле не ісці, "арэхаў", што ляжаць у барознах, не бачыць".

Беларусам без бульбы ніяк. Амаль у кожнай вясковай хаце, ды і ў гарадской кватэры, яна абавязкова атрыбут на стале. Бульбу дабаўляюць у суп, вараць, смажаць, тушаць, таўкуць на кашу. З яе робяць драныя бліны, бабку, піражкі, клёцкі і яшчэ дзесяткі розных страў. "Ты дні не хадзіла ў магазін па хлеб, – падзялілася знаёмая. — Не эканомлю, бульбу люблю". Ну, і скажы пасля гэтага, што беларусаў несправядліва называюць бульбашамі, а бульбу – другім хлебам.

"Гэта ж трэба, як свет перавярнуўся, – дзівілася некалі мая бабуля. — Што па жалобнай патрэбе, што па вясёлай, абавязкова на стол бульба ставіцца. Некалі, сустракаючы гасцей, нават беднякі сароміліся частаваць ёй гасцей, хаця дома была на стале кожны дзень".

Садзіць бульбы ў вёсках шмат, асабліва тыя людзі, што трымаюць гаспадарку: трэба, каб і сабе хапіла, і на насенне, і на корм жывёле. Скормліваюць пераважна свінням. "Што з той мукі, – кажуць гаспадыні, – разляцілася па вядры, не збярэш. А вось калі яшчэ некалькі прыгаршчаў бульбы дабавіць, гэта ўжо іншая справа". У гады, калі яна не ўродзіць, многія нават парасят у зіму не купляюць. Кармі не кармі буракамі ды камбікормам, сала ўсё адно не будзе".

Садзіць бульбу лягчэй. А вось каб выкапаць участак, пасаджаны за дзень, трэба дзесяць спіну гнуць. Іншы раз набярэшся так, што ледзь дапляцешся дадому. А раніцай матыку ў рукі і... зноў за вёску. Спытаеш пра жыццё ў суседзяў па бульбяным полі злева – стогнуць, глянеш на тых, што шчыруюць справа, – і пытацца не трэба: на каленях у барознах стаяць. І ні бульбы ўжо не хочацца, ні сала...


Разважала Марына СЛІЖ.

# Прызы для верных сяброў «Рэгіянальнай газеты»

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" зьмяніла ўмовы традыцыйнага розыгрышу прызоў сярод сваіх падпісчыкаў. Цяпер мы будзем разыгрываць прызы ў канцы кожнага года сярод тых падпісчыкаў, хто выпісвае "Рэгіянальную газету" на працягу года, а не на пачатку падпісного перыяду.**

Сёлета для нашых чытачоў, якія з'яўляюцца падпісчыкамі 2004 года, рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" разыграе прызы ў снежні. Дашліце на адрас рэдакцыі ў канверце з паназнакай "Падпіска–2004" падпісныя квіткі або іх копіі, якія пацвярджаюць тое, што вы былі падпісчыкам на працягу ўсяго 2004 года (падпіска магла быць аформленай нават памесячна, але важна, каб яна не перапынялася), і вы станеце ўдзельнікам розыгрышу наступных прызоў:

**Мабільнага тэлефона з падключэннем да сеткі МТС, аксесуараў сотавай сувязі ад сеткі салонаў сотавай сувязі "Дважды-Два",**

**Кухоннага камбайна "Philips"**, электрафенаў "Philips", механізаваных ручных кухонных тарак на 5 дыскаў "Moulinex" ад прадпрымальніка Уладзіміра Сідарава,

**Набору высакаякаснай акустыкі ад кампаніі "IT Systems"),**

**Вечара на дваіх пры свечках у кафэ "Блюз",**

**Акумулятара Ista ад ТАА «Астрон-сэрвіс»,**

**Мастацкіх кніг ад прадпрымальніка Мікалая Кубіцкага,**

**Набору аўтамабільнай касметыкі ад 1–й акумулятарнай кампаніі і шмат іншых каштоўных прызоў.**

Прызы будуць разыграныя і ўручаныя падпісчыкам напярэдадні Новага года.

А ў 2005 годзе вас чакаюць новыя прызы сярод падпісчыкаў, якія застануцца вернымі нашай газеце на працягу 2005 года.

**Падпісаўся – выйграй!**

■ СТАТЫСТЫКА

# Дабрабыт у лічбах

**Узровень дабрабыту жыхароў розных раёнаў нашага рэгіёну вырашыў высветліць карэспандэнт "РГ" напярэдадні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Згодна з афіцыйнымі статыстычнымі дадзенымі, сярэдняя зарплата ў жніўні найвышэйшай была ў Маладзечанскім раёне. Яна склала 352,3 тысячы рублёў. Менш за ўсіх заплацілі астраўчанам – у сярэднім 277,2 тысячы.**

Публікуем памеры сярэдніх зарплат па ўсіх раёнах і горадзе Маладзечна. Агульную за жнівень і па асноўных галінах народнай гаспадаркі асобна. Дадзеныя друкуем у тысячах рублёў.

Па выніках жніўня з табліцы бачна, што працаваць у галіне прамысловасці выгадней было на прадпрыемствах Маладзечанскага раёна. Сярод будаўнікоў больш за іншых атрымлівалі жыхары горада Маладзечна. Па–за канкурэнцыяй засталіся таксама маладзечанскія транспартнікі. У гандлі зноў жа ініцыятыву па аплаце працы перахапілі маладзечанскія вяскоўцы. А вось у сельскай гаспадарцы ў спрэчку ўмяшаўся Валожынскі раён, тут найлепшыя паказчыкі. За ахову здароўя і культуру больш плацілі на Мядзельшчыне. У рэгіёне больш за сваіх калег зарабілі астравецкія работнікі сацзабеспячэння. І ў адукацыі лепш за астатніх ацэньвалася праца настаўнікаў усё таго ж Маладзечанскага раёна.

Сярэднестатыстычны жыхар рэгіёну зарабіў у жніўні каля 307 490 рублёў. На гэтыя грошы наш зямляк мог набыць у банку 142 долары ЗША. Аналізуючы гэтыя лічбы, трэба мець на ўвазе, што ў аддзелы статыстыкі дадзеныя перадаюць прадпрыемствы і арганізацыі, якія маюць статус юрыдычнай асобы і прадпрымальнікі, што валодаюць стацыянарнымі гандлёвымі пунктамі (не кіёскамі, а магазінамі). Не паддаюцца ўліку таксама і тыя, хто гандлюе на рынках.

Сярэдняя зарплата складаецца з зарплат усіх работнікаў таго ці іншага прадпрыемства – ад прыбіральшчыцы да кіраўніка.

**Па дадзеных аддзелаў статыстыкі рэгіёну падрыхтаваў Сяргей ЗЯНЬКО.**

| Раён | Сярэдняя | Прамысл. | Будаўніцтва | Транспарт | Гандаль | Сельск. гасп. | Адукацыя | Ахова здароўя | Культура | Сацзабесп. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечанскі | 352,3 | 418,0 | 368,6 | 348,4 | 291,8 | 269,0 | 313,6 | 300,5 | 223,1 | 247,9 |
| г. Маладзечна | 346,3 | 343,8 | 447,4 | 483,1 | 231,5 | – | 250,0 | 276,8 | 178,3 | 219,1 |
| Валожынскі | 303,8 | 302,2 | 230,9 | 349,0 | 208,8 | 293,2 | 242,1 | 280,6 | 229,1 | 221,8 |
| Ашмянскі | 303,0 | 334,3 | 397,1 | 331,5 | 198,0 | 188,5 | 218,9 | 280,2 | 221,4 | 178,9 |
| Вілейскі | 299,3 | 333,3 | 369,6 | 302,5 | 224,2 | 240,4 | 246,6 | 288,3 | 230,9 | 194,6 |
| Смаргонскі | 298,0 | 320,8 | 431,7 | 347,6 | 209,2 | 203,5 | 223,7 | 295,0 | 148,2 | 199,0 |
| Мядзельскі | 280,0 | 248,6 | 351,7 | 337,0 | 197,3 | 238,0 | 265,3 | 307,8 | 259,7 | 242,5 |
| Астравецкі | 277,2 | 272,7 | 349,1 | 354,9 | 231,9 | 233,8 | 257,0 | 280,3 | 214,6 | 280,4 |

■ КНІГА СКАРГАЎ

# Тэрмас тэрмасу не раўня

**Добры дзень, "Рэгіянальная газета"!**

Чытаю вас даўно, але пішу ўпершыню. Чытала вашы артыкулы аб абароне правоў спажыўцоў. Усе мы незалежна ад месца работы і адукацыі з'яўляемся спажыўцамі. Хачу зрабіць добрую справу для пакупнікоў нашага рэгіёну і прапанаваць антырэкламу: "Не купляйце тэрмасы вытворчасці КНР фірмы "Алень", якія прадаюцца ў магазінах Маладзечна. Корак у тэрмаса на другі дзень выкарыстання развальваецца на часткі. У магазіне грошы вам ужо не вернуць, бо не прымаюць тавар, які быў у карыстанні. Корак таксама не заменяць, а калі і заменяць, то на такі ж "даўгавечны". Затое ў тым жа магазіне вам парадзяць вытачыць корак самой – з асіны, а таксама дадуць дзельную параду "не купляць танных аднаразовых тэрмасаў". Майце на ўвазе, што пры пакупцы тэрмаса вас ніхто не папярэдзіць, што ён аднаразовы.

Спадзяюся, што мая парада некаму спатрэбіцца. Што тычыцца мяне, то я сёння з сумам успамінала пра савецкія часы і "Знак якасці". А яшчэ – не хочацца мне больш заходзіць у той магазін, хаця, можа, прадаўцы і маюць рацыю: мы не настолькі багатыя, каб купляць танныя рэчы. Толькі хто б яшчэ падказаў, танна – гэта колькі, а колькі – дорага. І ці так гэта танна – два разы чаю папіць на рабоце за 12 тысяч рублёў.

Спадзяюся, што маё пісьмо ўсцеражэ каго-небудзь ад такой пакупкі. А наогул, мне сёння сумна ад таго, што тэрмас мне ўсё роўна патрэбны. Цяпер я злая на ўвесь свет, а заўтра зноў пайду ў гаспадарчы магазін і зноў "наступлю на тыя ж самыя граблі", гэта значыць, куплю тэрмас. Я аптымістка і веру ў тое, што з кожным новым тэрмасам я буду станавіцца разумнейшай і разумнейшай, не пройдзе і года, як я навучуся адрозніваць аднаразовы тэрмас ад шматразовага. Ці стану рацыяналізатарам і вынаходнікам, навучуся перарабляць кітайскія падробкі ў дабротныя рэчы. А пакуль... Пакуль я толькі магу даваць парады. З тым і застаюся.

**Ваша чытачка і пакупніца Ірына КЕЛДАНОВІЧ, бібліятэкар раённай бібліятэкі, Маладзечна.**



І ў холад, і ў спёку выручыць тэрмас. Калі ён спраўны. Фота з архіва "РГ".

## Курсы валют НБ РБ

| | 16.09 руб. | 23.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2165,00 | 2164,00 |
| Еўра | 2649,74 | 2662,04 |
| Злоты | 605,21 | 615,47 |
| Літ | 767,35 | 770,93 |
| Расійскі рубель | 74,11 | 74,07 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2150/2180 | 2150/2180 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 15.09 | 22.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13700 | 13700 |
| Сасіскі, 1 кг | 5400 | 5400 |
| Селядзец, 1 кг | 2700 | 2700 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 630 | 630 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 780 |
| Капуста, 1 кг | 400 | 430 |
| Морква, 1 кг | 780 | 750 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Апельсіны, 1 кг | 2400 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1000 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 400 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 950 | 950 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2100 |
| Масла, 1 кг | 5800 | 5800 |
| Тварог, 1 кг | 2700 | 2800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1900 | 1900 |
| Сала, 1 кг | 4800 | 4800 |
| Бульба малад., 1 кг | 300 | 300 |
| Брусніцы, 5 л вядро | 9000 | 9000 |

■ УВАГА! ВЫШУК

# Знайсці курсанта

**Вілейскі раённы аддзел унутраных спраў адшуквае ПАГУДУ Віктара Валер'евіча, 1984 года нараджэння, жыхара Вілейкі, курсанта 2 курса Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў РБ, які 9 жніўня 2004 года пайшоў з дому і не вярнуўся. Супрацоўнікі Вілейскага РАУС просяць грамадзян, якім што-небудзь вядома пра лёс ці месцазнаходжанне Віктара, звяртацца па тэлефоне ў Вілейцы: 5-43-78 ці па тэлефоне 02.**

**ВІЛЕЙКА.** З 13 жніўня супрацоўнікі Вілейскага раённага аддзела ўнутраных спраў адшукваюць 20-гадовага курсанта 2 курса Акадэміі МУС Віктара Пагуду. Віляйчанін 9 жніўня пайшоў з дому і яго месцазнаходжанне да гэтага часу невядома. Тым не менш аператыўнікі інтуітыўна ўпэўнены, што хлопец жывы і здаровы.

У вышук 13 жніўня падалі бацькі. Супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што Віктар пайшоў з дому 9 жніўня ў 14 гадзін. Удалося дакладна ўстанавіць таксама, што ў гэты ж дзень у 15.05 Віктар сеў на рэйсавы аўтобус Вілейка–Маладзечна. У Маладзечне выйшаў каля чыгуначнага вакзала. Аб гэтым аператыўнікам паведаміў вадзіцель аўтобуса. Ён і быў апошнім, хто бачыў хлопца. На месца вучобы, у Акадэмію Міністэрства ўнутраных спраў, што ў Мінску, курсант таксама не з'явіўся.

Рэспубліканскі вышук Вілейскі РАУС аб'явіў 17 жніўня. Тады ж узбудзілі крымінальную справу па факце невядомага знікнення чалавека. Вядзецца следства.

Намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Андрэй Дударчык** у тэлефоннай размове расказаў карэспандэнту "РГ": "Адзінае, што пакуль у нас ёсць, – гэта ўпэўненасць у тым, што Віктар жывы і здаровы. Але пакуль мы яго не знайшлі, аб юрыдычным аспекце гаварыць рана. Існуюць юрыдычныя і інтуітыўныя доказы. Усё, што тычыцца інтуіцыі, то такія доказы, якія сведчаць аб тым, што ён жывы, у нас ёсць. А юрыдычна гэта не пацвердзіцца, пакуль мы яго не знойдзем. Больш канкрэтна – пакуль што не для прэсы. Афіцыйная інфармацыя – знік, шукаем. З першага дня цесна супрацоўнічаем з Акадэміяй МУС. Яе супрацоўнікі прыязджалі, размаўлялі з бацькамі, сябрамі, высвятлялі зыллёвыя ўмовы. Каб правесці пэўныя паралелі, важна было высвятліць, якім хлопец быў дома, якім – на вучобе. Па сённяшні дзень мы трымаем сувязь з акадэміяй. Уся інфармацыя сцякаецца да нас. Калі нават мы захочам пра гэта забыць, нам не дадуць. Па-першае, такім справам заўсёды надаецца асаблівае значэнне, па-другое, менавіта дадзеная справа знаходзіцца на кантролі ў міністра. Гэта наша ведамства, а Віктар – чалавек, які павінен быў стаць афіцэрам міліцыі".



**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Не сваю бульбу выбралі

**МАЛАДЗЕЧНА. Бамжы – мужчына і жанчына – скралі 520 кілаграмаў бульбы.**

Яны выкрашылі "дапамагчы" гаспадарам і самастойна выкапалі ўраджай на бульбяным участку непадалёк ад вёскі Мазалі. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. З нажавым раненнем і іншымі траўмамі трапіў на бальнічны ложак 16-гадовы хлопец, на якога напала двое мужчын.**

Гэта здарылася ў раёне завода парашковай металургіі на вуліцы Я.Купалы, дзе часцяком выгульваюць сабак. Мужчыны патрабавалі ў хлопца грошы. Злодзеі затрыманы. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Гужавую павозку XIX стагоддзя вырабу нехта скраў са двара хутара Корсакі паблізу вёскі Краснае.**

Гаспадар прапажы жыве ў Мінску. Яго адсутнасцю і скарыстаўся злодзей. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзве невядомыя жанчыны прадставіліся работнікамі гаргазу і абакралі пенсіянерку, што жыве па вуліцы Драздовіча, 11.**

Зладзейкі забралі з сабой тэлевізар, 320 тысяч рублёў і пінжак з медалямі і ордэнамі. Мяркуецца, што крадзеж учынілі сяброўкі дарослага сына.

**МАЛАДЗЕЧНА. На пашы ў згарэлым вагончыку каля вёскі Літва знайшлі абгарэлы труп 29-гадовага мясцкоўца.**

Мяркуецца, што прычына пажару — неасцярожнае абыходжанне з агнём падчас курэння. Праводзіцца праверка.

**МАЛАДЗЕЧНА. Вяскоўкі з Цюрлёў выкралі 60 кілаграмаў клею з прадпрыемства адкрытага акцыянернага таварыства "Экспалес", дзе і працуюць.**

Перш чым ісці на справу, 37-гадовыя зладзейкі згаварыліся. Урон ад крадзяжу склаў 354 тысячы рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. З вёскі Раёўка прапала 15-гадовая дзяўчына. Яна пайшла з дому і не вярнулася.**

Гэта здарылася амаль у 6 гадзін вечара 18 верасня. Аб зніклай паведаміла ў міліцыю яе маці. Праводзіцца праверка. Раніцай у сераду дзяўчыну яшчэ не знайшлі.

**МАЛАДЗЕЧНА. У гараджанкі, якая жыве па вуліцы Садовай, 8, знайшлі 650 грамаў высушаных макавых галовак і 730 грамаў здробненай сумесі раслінная паходжання з пахам растваральніка.**

Яшчэ 150 грамаў высушаных каробачак маку знайшлі ў маладзечанца з вуліцы Ф.Скарыны, 44. Але ці з'уляецца знойдзенае супрацоўнікамі міліцыі наркатычнымі сродкамі, пакажа экспертыза. Праводзіцца праверка.

**МАЛАДЗЕЧНА. Вяскоўцы з Ермакоў так узрадаваліся, што капаць бульбу з'ехалася ўся сям'я, то, калі адыходзілі на ўчастак, забыліся зачыніць дзверы хаты.**

Тым часам няпрошаныя госці выкралі з шафы тысячу долараў і мільён рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадавец магазіна "Легенда" на працягу двух месяцаў крала з касы грашовую выручку.**

У сваю кішэню яна паклала 850 тысяч рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у вёсцы Насілава знайшлі труп 48-гадовай жанчыны, якую забіў вясковец з Дамашоў.**

Мужчына спачатку пабіў яе. І толькі праз некалькі дзён пацярпелая, калі ішла да яго ў Дамашы, памерла ў дарозе. Вінаваты тройчы судзімы за крадзеж, жанчына – двойчы за махлярства.

**Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ПАЖАРЫ

## З пажара – у бальніцу

**ВАЛОЖЫН. Дом у вёсцы Забрэззе 15 верасня згарэў датла, а яго гаспадар знаходзіцца ў бальніцы ў вёсцы Навінкі.**

Знаёмая гэтага мужчыны, па словах работніка валожынскага аддзела па надзвычайных сітуацыях, які выязджаў на пажар, ахарактарызавала яго як чалавека нармальнага, які любіў выпіць. Пасля яго здароўе, і ў першую чаргу псіхічнае, пашкодзілася: мужчына рэзаў сабе вены, спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Яго лячылі, з ім размаўлялі псіхолагі. Калі лячэнне закончылася, адпусцілі дадому. Увечары таго ж дня ён падпаліў шпалеры ў сваім доме.

Дом згарэў, гаспадара знайшлі і адправілі ў бальніцу. Мужчына, па словах работніка аддзела па надзвычайных сітуацыях, адчуваў сябе неспакойна, думаў, што яго нехта праследуе.

**Святлана ЦІШКО.**

## Агонь у Дзягілях

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Дзягілі здарыўся пажар.**

Згарэў дах жылога дома. Але самае страшнае, што ад атручэння прадуктамі згарання загінуў гаспадар дома.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Згарэла машына

**МЯДЗЕЛ. Незвычайны выпадак здарыўся ў райцэнтры.**

Тут увечары 10 верасня загарэлася аўтамашына "Форд-Сіера".

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ РЭХА ВАЙНЫ

## Падрываюцца «археолагі»

**МАГІЛЁЎ. Падчас несанкцыяніраваных раскопак на месцы баёў часоў Вялікай Айчыннай вайны ў Чавускім раёне (Магілёўская вобласць) адзін чалавек загінуў, яшчэ адзін атрымаў раненні.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі, 15 верасня ў Магілёўскую бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі з асколачнымі раненнямі цела дастаўлены 45-гадовы жыхар вёскі Раманавічы Магілёўскага раёна. Следча-аператыўнай групай Чавускага РАУС папярэдне ўстаноўлена, што ранені ён атрымаў у выніку выбуху боепрыпасаў часоў Вялікай Айчыннай вайны пры правядзенні сумесных раскопак з 59-гадовым непрацуючым жыхаром Магілёва. Труп апошняга быў знойдзены ў лясным масіве недалёка ад вёскі Прыдань Чавускага раёна. На месцы здарэння сапёры знайшлі 72 артылерыйскія снарады, 6 гранат і 80 патронаў, якія вывезены і абясшкоджаны.

**Паводле БелаПАН.**

■ «НАШЫ» ЗА МЯЖОЙ

## Пачысцілі зубкі

**МІНСК. У горадзе Фланкенберг (ФРГ) пры спробе вынесці з супермаркета неаплачаныя тавары затрыманы два беларусы — 24 і 38 гадоў.**

Работнікі супермаркета ўтрымлівалі беларускіх турыстаў да прыезду паліцыі. Частку выкрадзенага злодзеі добраахвотна здалі. Таварамі, за якія турысты з Беларусі не захацелі плаціць, аказаліся касметычныя сродкі, сырод якіх зубная паста і дэзадарант.

Кошт скрадзенага не перавышае 15 еўра, аднак злодзеям будзе каштаваць значна даражэй. Апрача штрафу, які яны заплацілі супермаркету, яны яшчэ вымушаны былі ўнесці буйную суму ў гарадскі суд.

**Паводле БелаПАН.**

■ ПАЛІЦЫЯ НОРАВАЎ

## Гвалтаўнікоў перахапілі

**БРЭСТ. Пракуратурай заведзена крымінальная справа ў дачыненні да 30-гадовага жыхара абласнога цэнтра.**

Быў зафіксаваны факт выкарыстання за грошы (5 долараў ЗША) жанчыны для аказання інтымных паслуг.

А 16 верасня ў Кобрынскі РАУС звярнулася 25-гадовая жанчына з тым, што 4 невядомых на аўтамабілі «Аўдзі-80» вывезлі яе ў лясны масіў і згвалтавалі. Супрацоўнікамі міліцыі быў уведзены план «перахоп» і на мяжы з Украінай былі затрыманы па падазрэнні ва ўчыненні гэтага злачынства 4 грамадзяніны Украіны.

**БелаПАН.**

■ ГРОШЫ

## Фальшываманетчыкі асвоілі еўра

**МІНСК. Супрацоўнікамі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі і байцамі спецыяльнага падраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» затрыманы ўдзельнікі міжнароднай злачыннай групы, якія на працягу доўгага часу займаліся вырабам і збытам фальшывых еўра.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС рэспублікі, звесткі аб дзейнных злачынцаў былі атрыманы з крымінальнай паліцыі Латвіі, на чыёй тэрыторыі і выраблялiся падробныя купюры. Распаўсюджваліся ж фальшыўкі ў Беларусі і іншых краінах СНД.

Вечарам 15 верасня ў Мінску ля рэстарана «Белая вежа» пры спробе збыту 150 купюр вартасцю 200 еўра былі затрыманы 7 чалавек: 5 грамадзян Беларусі з Брэсцкай вобласці і 2 жыхары Латвіі. Пры затрыманні яны аказалі актыўнае супраціўленне, аднак дзякуючы дакладным дзеянням супрацоўнікаў спецпадраздзялення «Алмаз», аперацыя прайшла на высокім прафесійным узроўні, зазначылі ў МУС. Праводзіцца работа па ўстанаўленні каналаў збыту, іншых членаў групы, а таксама вышуку 2 злачынцаў, якім удалося ўцячы.

Па заключэнні экспертнакрыміналістычнага цэнтра ГУУС Мінгарвыканкама канфіскаваны 30 тысяч еўра з'яўляюцца фальшывымі. У дачыненні да затрыманых узбуджана крымінальная справа.

**Паводле БелаПАН.**

■ НАПЯРЭДАДНІ ВЫБАРАЎ

# Кандыдаты вызначаныя

**Акруговыя камісіі 16 верасня закончылі рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. 17 кастрычніка за адзіны дэпутацкі мандат для кожнай выбарчай акругі паспрачаюцца кандыдаты нашага рэгёну.**

Публікуем спіс зарэгістраваных кандыдатаў, якія вылучаюцца па выбарчых акругах, што ўваходзяць у наш рэгіён.

### Маладзечанская гарадская выбарчая акруга № 85 – горад Маладзечна:

**Байтаз Ірына Расціславаўна**, 1952 года нараджэння, настаўніца англійскай і нямецкай моў, дырэктар гімназіі № 6, жыве ў Маладзечне, беспартыйная.

**Баланчук Эдуард Мікалаевіч**, 1969 года нараджэння, выкладчык фізічнай культуры і спорту, старшыня Маладзечанскага аддзялення рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт", жыве ў Маладзечне, беспартыйны.

**Гаварушкін Станіслаў Мікалаевіч**, 1961 года нараджэння, доктар–неўрапатолаг, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па працы, сацыяльнай абароне, справах ветэранаў і інвалідаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, жыве ў Мінску, беспартыйны.

**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**, 1945 года нараджэння, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, галоўны рэдактар газеты "Згода", жыве ў Мінску, член партыі "Беларуская сацыял–дэмакратычная Грамада".

**Лагвіновіч Вольга Леанідаўна**, 1978 года нараджэння, псіхолаг, педагог–псіхолаг СШ № 12, жыве ў Маладзечне, член партыі БНФ.

**Чурсін Мікалай Усцімавіч**, 1947 года нараджэння, інжынер–будаўнік, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама, жыве ў Маладзечанскім раёне, беспартыйны.



Аддаць свой голас за аднаго з кандыдатаў – законнае права грамадзяніна.

Фота ByMedia.Net.

**Лужынскі Іван Станіслававіч,** 1959 года нараджэння, доктар–лячэбнік, намеснік галоўнага доктара ДУ "Маладзечанскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне", жыве ў Маладзечне, беспартыйны.

### Маладзечанская сельская выбарчая акруга № 86 – Маладзечанскі і Валожынскі раёны, акрамя Івянецкага сельскага і пасялковага саветаў, Пральніцкага сельскага савета, Пяршайскага сельскага савета Валожынскага раёна:

**Жданюк Ніна Уладзіміраўна**, 1954 года нараджэння, настаўніца, дырэктар Валожынскай агульнаадукацыйнай школы–інтэрната для дзяцей–сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, беспартыйная.

**Зवернік Уладзіслаў Іванавіч**, 1934 года нараджэння, выкладчык фізічнага выхавання, жыве ў Маладзечне, член аб'яднанай грамадзянскай партыі.

**Казлоўскі Аляксей Станіслававіч**, 1980 года нараджэння, радыёфізік, інжынер–праграміст СП ЗАТ "Слаўнафта–Старт", жыве ў Мінскім раёне, член партыі БНФ.

### Вілейская выбарчая акруга № 79 – Вілейскі і Мядзельскі раёны:

**Анікіенка Віктар Пятровіч,** 1951 года нараджэння, выкладчык–фізік, эканаміст, дырэктар ААТ "Вілейскі камбікормавы завод", жыве ў Вілейцы, беспартыйны.

**Баслык Ігар Уладзіміравіч**, 1962 года нараджэння, інжынер–арганізатар вытворчасці, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, жыве ў Мядзельскім р-не, беспартыйны.

**Кутас Галіна Віктараўна,** 1950 года нараджэння, настаўніца біялогіі і хіміі, старшыня Ільянскага сельскага савета, жыве ў вёсцы Ілья Вілейскага раёна, беспартыйная.

**Малярчук Уладзімір Архіпавіч**, 1947 года нараджэння, электраманцёр, слесар–электрык ААТ "Вілейскі райаграсэрвіс", жыве ў Вілейцы, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

**Сюдак Аляксей Валер'евіч**, 1980 года нараджэння, студэнт 4 курса Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта, не працуе, жыве ў Вілейцы, член партыі БНФ.

### Смаргонская выбарчая акруга № 61 – Смаргонскі і Астравецкі раёны:

**Батурын Валеры Іванавіч**, 1956 года нараджэння, інжынер-канструктар-тэхнолаг радыёапаратуры рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Смаргонскі агрэгатны завод", жыве ў Смаргоні, член Партыі камуністаў беларускай.

**Голубева Таццяна Генадзьеўна**, 1947 года нараджэння, інжынер-хімік-тэхнолаг, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлі і прыватызацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, жыве ў Мінску, член Камуністычнай партыі Беларусі.

**Дзергачоў Аляксандр Мартынавіч**, 1956 года нараджэння, юрыст, індывідуальны прадпрымальнік, жыве ў Смаргоні, член партыі БНФ.

### Стаўбцоўская выбарчая акруга № 92 – Івянецкі сельскі і пасялковы саветы, Пральніцкі сельскі савет і Пяршайскі сельскі савет Валожынскага раёна:

**Бібік Дзмітры Іванавіч,** 1968 года нараджэння, аспірант навукова–педагагічнага факультэта Акадэміі МУС РБ, жыве ў Мінску, беспартыйны.

**Дубовік Мікалай Мікалаевіч,** 1955 года нараджэння, дэпутат, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, жыве ў Мінску, баспартыйны.

**Касавец Мікалай Мікалаевіч**, 1951 года нараджэння, наладчык кавальска–прасавальнага абсталявання філіяла ВРУП "Мінскі маторны завод" у горадзе Стоўбцы, жыве ў Стоўбцах, член Ліберальна–дэмакратычнай партыі Беларусі.

**Кіёнак Генадзь Пятровіч**, 1950 года нараджэння, начальнік Уздзенскага раённага вузла элактрасувязі, жыве ў мястэчку Узда, беспартыйны.

**Крываль Віктар Аляксеевіч**, 1966 года нараджэння, індывідуальны прадпрымальнік, жыве ў вёсцы Хатляны Уздзенскага раёна, член беларускай сацыял–дэмакратычнай партыі "Народная грамада".

### Іўеўская выбарчая акруга № 55 – Ашмянскі раён:

**Баршчоў Уладзімір Мікалаевіч**, 1956 года нараджэння, афіцэр з вышэйшай ваеннай адукацыяй, выкладчык гісторыі, эканаміст–мэнэджэр, кіраўнік прадстаўніцтва ААТ "Прамысловая група "Ланрусінвест", жыве ў Мінску, беспартыйны.

**Шуткін Аляксандр Аляксеевіч**, 1956 года нараджэння, афіцэр з вышэйшай ваеннай адукацыяй, пенсіянер Міністэрства абароны, жыве ў Гродне, член Ліберальна–дэмакратычнай партыі Беларусі.

**Такім чынам у 6 выбарчых акругах зарэгістраваныя 25 кандыдатаў. Гэта 4,17 чалавека на 1 дэпутацкае месца. Больш за ўсіх зарэгістравана ў Маладзечанскай гарадской выбарчай акрузе – 6 кандыдатаў, менш за астатніх – у Іўеўскай – 2 кандыдаты. 12 вылучэнцаў належаць да той ці іншай партыі, 13 – беспартыйныя.**

Сяргей ЗЯНЬКО.

**Колькасць прэтэндэнтаў на 1 месца па акругах:**

| | |
|---|---|
| №55 | 2 |
| №61 | 3 |
| №79 | 5 |
| №85 | 6 |
| №86 | 4 |
| №92 | 5 |
| Па рэгіёне | 4,17 |

## Падарунак для гімназіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Часопісы і газеты на французскай мове, метадычную літаратуру прывезлі 15 верасня прадстаўнікі французскага пасольства гімназіі №3 з паглыбленым вывучэннем французскай мовы.**

Лінгвістычны універсітэт перадаў тэсты і кантрольныя работы, якія выкарыстоўваліся сёлета ў гэтай ВНУ на ўступных экзаменах.

Святлана ЦІШКО.

## Супраць русіфікацыі

**МІНСК. Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) звярнулася да ўладаў Мінска з просьбай спыніць русіфікацыю шэрагу сталічных школ.**

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні ТБМ Сяржук Кручкоў, у лісце да начальніка ўпраўлення адукацыі Мінскага гарвыканкама Міхаіла Ціцянкова гаворыцца аб тым, што ў гэтым навучальным годзе ў двух беларускамоўных класах (10"А» і 10 «Б») сярэдняй школы № 168 выкладанне сямі прадметаў з 12 стала весціся па-руску.

«Аднак у справаздачах, што ідуць у Міністэрства адукацыі, такія класы фармальна працягваюць лічыць беларускамоўнымі, — сказаў С.Кручкоў. — І хоць у гэтай школе ў кожны з гадоў навучання ёсць беларускамоўны клас, перавод дзесяцікласнікаў на рускамоўнае навучанне прыводзіць да ліквідацыі сістэмы выкладання на роднай мове. Аднак дырэктар школы, якая не бачыць у русіфікацыі навучальнага працэсу нічога страшнага, толькі настойліва спрабавала высветліць крыніцу інфармацыі, што паступіла ў ТБМ».

Паводле слоў С.Кручкова, такая карціна назіраецца ў Мінскай беларускамоўнай гімназіі № 17. «Паўтара года таму ў гэтую навучальную установу прыйшла новы дырэктар, якая пачала працэс прыхаванай русіфікацыі навучальнай установы. Разам з правядзеннем набору ў першыя рускамоўныя класы яна ўкараніла сістэму, пры якой да моманту пераходу вучнямі з пачатковай школы ў базавую адбываецца паступовае растварэнне беларускамоўных класаў у рускамоўным асяроддзі», — сказаў С.Кручкоў.

Аб сітуацыі ў гэтай гімназіі кіраўніцтва ТБМ праінфармавала старшыню Мінгарвыканкама Міхаіла Паўлава. ТБМ просіць кіраўніка гарвыканкама спыніць працэс русіфікацыі гімназіі № 17.

Паводле БелаПАН.




Назва плошчы ў Ветцы пад Гомелем.

Фота ByMedia.Net.

# Вёска Лёпаўшчына

**(Валянціне Мікалаеўне прысвячаецца)**

**Можа, каму-небудзь з вас давядзецца пабываць на Ільяншчыне, дык знайдзіце магчымасць і наведайце Лёпаўшчыну, вёсачку, якая нібы прыплялася тут да лесу яшчэ за даўнім часам.**



І толькі неба над нашымі вёскамі – вечнае.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Ішоў 1866 год. Ужо адменена прыгоннае права, ужо падняты на шыбеніцу Яська, гаспадар з-пад Вільні (Кастусь Каліноўскі). Царская ўлада жорстка задушыла паўстанне. Паўстанцаў вышуквалі паўсюдна ў пушчах і проста забівалі на месцы. Апошніх уцалелых змагароў за вольнасць і тых, хто ім спачуваў, загналі на катаргу ў далёкую Сібір.

Асцюковіцкі пан Мечыслаў Тукала за ўдзел у паўстанні быў сасланы ажно ў Верхатурыю (Верхаянск), а яго малодшы брат Канстанцін – у Томск. Іх уласнасць канфіскавалі на карысць дзяржавы.

За гады паўстання гаспадарка ў былых панскіх маёнтках і, наогул, паўсюдна значна пагоршылася. Уладам, каб пазбегнуць поўнага краху, трэба было хоць часткова ўлічваць сялянскія жыццёвыя інтарэсы. Але ж вельмі марудна вырашалася ўладамі сялянскае пытанне. Нарэшце дзяржава выдае пазыку з тэрмінам пагашэння на працягу 49 гадоў, а праз 2 гады, у 1868 годзе, сяляне атрымоўваюць ва ўласнае карыстанне доўгачаканую зямлю, тую, якая яшчэ нядаўна належала пану Мечыславу Тукалу.

Зямлю сялянам давалі ў розных месцах невялікімі цеснымі надзеламі: сядзібную, ворную, сенажаць, лес, а яшчэ выдзялялася ў іх карыстанне няўдобіца, паша для жывёлы і неацэнны пералог.

І да гэтага часу некаторыя прыгонныя сяляне таксама мелі зямлю, але яна была панскай або дзяржаўнай, яе аддавалі сялянам у часовае карыстанне, за што прыгонныя абавязаны былі адбываць паншчыну ці падзёншчыну. Цяпер жа сяляне выкупілі і гэтую зямлю, і нанава выдзеленую ім і станавіліся сапраўднымі ўласнікамі, нібыта незалежнымі. Канешне, гэта быў значны крок наперад у параўнанні з прыгонам. Але ж залежнасць ад дзяржавы і паноў нікуды не дзелася. Сялянам ўсё роўна трэба было вельмі шмат працаваць на сваёй зямлі і на панскай, хаця і за плату, канешне. Каб пракарміцца, разлічыцца з пазыкай і заплаціць немалыя падаткі, трэба было яшчэ шукаць заробкі ў іншых мясцінах.

Малазямельныя сяляне заўсёды былі беднымі. Таму многія з іх гадамі недаядалі, збіралі сродкі, бо хацелі набыць больш зямлі. Вельмі беднымі былі беззямельныя сяляне. Шмат хто з іх тады меў гэткі статус. Яны станавіліся парабкамі, прымакамі, сыходзілі ў гарады і мястэчкі, дзе набывалі новы статус беднага гараджаніна ці местачкоўца.

У той перыяд, у перыяд царскай перабудовы, у панскім засценку Лёпаўшчызна (ад лацінскага "лепо" – прыгожая) жылі чатыры прыгонныя сям'і: Каляды Данілы, Каляды Рыгора, якія прыйшлі сюды аднекуль з-пад Баранавічаў, Камінскага Ігната, Петрусевіча Аўгусціна. Пан Тукала некалі спецыяльна пабудаваў гэты невялікі засценак тут, каля лесу, недалёка ад вёскі Вязынкі. Не без падстаў пан лічыў, што вазіць гной на конях сюды, на гэтыя землі, з Асцюковічаў далекавата – шмат траціцца часу і сродкаў. Таму ён вырашыў трымаць там пэўную колькасць жывёлы. Для гэтага і пабудаваў неабходныя памяшканні, у тым ліку і хаты, у якіх пастаянна жылі прыгонныя і працавалі.

Сяляне засценка Лёпаўшчызна пасля атрымання зямлі ва ўласнае карыстанне павінны былі цяпер самі збудаваць сабе хаты ўжо на новых месцах і там абжывацца.

Не аднаму пакаленню давялося тут развейваць навалу з душы. Пара дасталася людзям такая нялёгкая: эпідэміі, войны, рэвалюцыі, калгасны камунізм (дакладней беспарадак), потым зноў перабудова. А за імі вось ужо і цяперашні рынкавы сацыялізм дачакаліся. І немаведама што яшчэ наперадзе чакае людзей.

Будаўніцтва і вымушаныя пераезды ці пературбацыі, як тады казалі яшчэ з часоў Кацярыны Вялікай і Пацёмкіна, забіралі шмат сіл. Ды спадзяваннямі заўсёды жылі людзі.

Каля самага лесу былі пастаўлены першыя чатыры хаты: Аўгусціна, Рыгора, Ігната і Данілы. Будавалі іх спешна. Клеці, пуні, ток – гэта будавалі ў першую чаргу. Самі як-небудзь, а пра гаспадарку дбалі наперад. Так на новым месцы нарадзілася маленькая вёсачка, якую назвалі, нядоўга думаючы, Лёпаўшчына. Пэўна ж, спадабалася людзям панская назва.

Хутка раслі ў Лёпаўшчыне сялянскія сем'і. У Каляды Данілы чатыры сыны. І ўсе, як на падбор: высокія, прыгожыя, дужыя. "Мая хата хлопцамі багата", — жартаваў бацька і падумваў, як бы іх хутчэй ажаніць, і каб з выгодай, каб зберагчы хлопцаў ад царскага войска. Цароў заўсёды непакоіў сверб панавання, увесь час вяліся баявыя дзеянні – пашыраліся межы імперыі. А з вайны, як вядома, мала хто вяртаўся жывым і непакалечаным. Але ж усяго было: і ваявалі, і жаніліся, потам і крывёю жывілі зямельку, гадавалі дзетак. Як маглі, трымалі жыццё.

І жыццё не спынялася. Раслі сем'і, расла і Лёпаўшчына. Усё новыя гучалі галасы на яе вуліцы, у полі, новыя інтарэсы, погляды. Бог кожнаму дае свой шлях, свой лёс. Каго куды раскідвае жыццё, нібы сартуе людзей. Няўмольна пусцеюць бацькоўскія гнёзды. То хваробы не хочуць пакідаць людзей, забіраюць нібы па чарзе то аднаго, то другога. Забіраюць людзей і войны. Вось ужо новая навала падаспела – мікалаеўская вайна услед за японскай. Коціцца кола вайны, паліць, топча, разбурае. А тут яшчэ і камуністычны прывід з дыктатурай падаспеў, блукае па свеце, хутка набірае сілу. Што было? Грамадзянская вайна, рэпрэсіі, голад, знішчаны мільёны жыццяў.

І вось, наце вам, адкуль што бярэцца. Раптам пазміралі калгасы, пра камунізм сталі забываць. Куды цяпер хінуцца людзям, дзе шукаць шчасця? Хто адкрые вочы, дасць цвярозасць думкаў і ўчынкаў?

Пакуль вядома адно: паўсюдна ў свеце прыватная ўласнасць складае аснову эканомікі, дзейнічаюць не загады зверху, а аб'ектыўныя эканамічныя законы, праўдзівая статыстыка паказвае сапраўдны, а не прыдуманы рост вытворчасці, багацей жывуць людзі. Такі шлях у разумных людзей.

— Мне ўжо 85 гадоў. Я нарадзіўся ў Лёпаўшчыне, жыву тут. Вельмі хочацца яшчэ пажыць і паглядзець, што будзе наперадзе, — кажа Янка Каляда, сын Фларыяна. Ён разважлівы, цікавы чалавек, расказчык, шмат памятае. Зведаў партызанскім сувязным нямецкую акупацыю, польскія буржуазныя парадкі і савецкую турму, усе саветы перажыў — тыя і гэтыя. Здаецца, нямала пражыў ужо, але каб занадта, то не вельмі. Жыццё чалавека такое кароткае і непрадказальнае.

Вось і Лёпаўшчына, напэўна, ужо дажывае свой век. Вёска ніколі не была вялікай, з 17 двароў цяпер засталося толькі пяць, у якіх яшчэ жывуць людзі. Дзве каровы, два кані і 9 жыхароў. Ужо вельмі знямог Курац Ігналя, пахаваўшы жонку. Курац Толя, тутэйшы каваль, адзін. Адзінокасць яшчэ ў адной хаце – Шушкевіч Марыі. Янка Каляда з жонкай Надзеяй таксама ўжо без энтузіязму і радасці.

Толькі 3-гадовая Карына – адзіны пакуль нашчадак, які радуецца сам, радуе бацькоў, дапамагае бабулі Ніне і маме кашку варыць, чакае з работы тату. Якая ж яшчэ можа быць перспектыва ў неперспектыўнай вёскі?

Адзін ці два разы на тыдзень Янка Каляда наведваецца ў Ілью, ходзіць туды па розных справах. Бывае, наведвае знаёмых, абавязкова крамы, каб нешта купіць, у школьным краязнаўчым музеі паглядзіць экспанаты. Нярэдка прыносіць сюды даўнейшыя фотаздымкі, дакументы і свае цікавыя ўспаміны. Ён расказаў, што ў пана Багдановіча ў Абадоўцах на яго сродкі існаваў сірочы дзіцячы дом.

І пра асцюковіцкіх паноў Тукалаў шмат чаго даведаліся школьныя краязнаўцы і запісалі цікавыя ўспаміны. Мала хто ведае, што ў Асцюковічах пан некалі пабудаваў сапраўдны чыгуначны вакзал, драўляны, пачуўшы перад гэтым, што плануецца будаўніцтва чыгункі з Маладзечна ў Плешчаніцы праз Асцюковічы і Ілью. Тукалы любілі фазанаў і разводзілі іх улетку, нават на волі ў сваіх лясах побач з вёскай.

Некалі Іван Каляда паспяхова скончыў у Ільі польскую сямігодку, а потым вучыўся ў школе ральнічых (сельскагаспадарчай) пад Барунамі на Ашмяншчыне, быў сведкам стварэння калгасаў у навакольных вёсках. Вельмі не хацелася сялянам станавіцца калгаснікамі, ужо тады ведалі, чым усё скончыцца.

Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк), беларускі паэт, чытаў вечарамі ў Ільі свае новыя вершы, а Янка быў адзіным яго слухачом. А яшчэ ён быў знаёмы з Янкам Філістовічам з Паняціч, якога расстралялі ў Мінску пасля вайны за антысавецкую дзейнасць. Ды і сам Каляда крыху бавіў час у "амерыканцы", знаходзячыся там пад следствам па справе Я. Філістовіча. Пра яго некалі пісаў Макар Паслядовіч у сваёй кнізе "Па воўчых сцежках", але зусім няпраўдзіва.

Пасля турмы Іван Каляда завербаваўся ў Карэлію, развітаўся з роднымі, з Лёпаўшчынай і з'ехаў на лесанарыхтоўкі, бо тут яго ніхто не браў на працу – улады не хацелі прымаць на працу былых асуджаных. Пазней аднак быў у абадоўскім саўгасе аграномам, загадчыкам аддзела.

А яшчэ пры Польшчы Фларыян Каляда быў узнагароджаны крыжам за прыкладнае вядзенне ўласнай гаспадаркі. У Вілейскім павеце толькі дзве гаспадаркі атрымалі крыжы. Другім быў Ілья Гамолка з Мычычаў.

Міхаіл Рудкоўскі правіў гармонікі і сам добра іграў на іх. Васіль Рудкоўскі хадзіў па вёсках, шыў людзям цёплыя кажухі з аўчын, ён быў яшчэ і цымбалістам, весяліў народ. Андрэй Рудкоўскі умеў адрамантаваць і замок, і гадзіннік, і што пажадаеце. Пётра Курац клаў у сялянскіх хатах цудоўныя печы, якія не дыміліся і доўга заставаліся гарачымі. А Васіль Курац, як Мічурын, прышчэпліваў яблыні і грушы і забяспечваў саджанцамі ўсё наваколле.

Ездзілі часам лёпаўскія мужыкі ў вёску Сербіна да старавераў, каб купіць у іх колы для драбін, якія ўжо рабілі самі, набыўшы яшчэ ў ільянскага Фрэйды, яўрэя-гандляра, металічныя восі.

У Ільі было шмат яўрэйскіх лавак і магазінчыкаў. Аднак асабліва вядомым быў тады магазін лакцёвых тавараў – вельмі ж прыгожыя прадавалі тканіны для сукенак.

Даўней вялікім попытам у насельніцтва карыстаўся гонт для дахаў. Юстын Каляда з Лёпаўшчыны рабіў яго шмат, нават хадзіў па вёсках і там рабіў яго заказчыкам.

А ў нядзелю, у базарны дзень, ехалі на вазах і ішлі пешшу лёпаўскія кабеты і мужчыны ў Ілью на кірмаш, прадавалі там тое-сёе і куплялі сабе і дзецям і ласункі, і абноўкі.

А на фэсты збіралася ў Ільі ўсё наваколле ад малога да старога, ніхто не заставаўся дома, хадзілі ў храмы да бога, аддана яму маліліся. І куды гэта ўсё падзявалася цяпер?

Даўно, ніхто ўжо і не памятае калі, у канцы лёпаўскай вуліцы з боку ад лесу была пабудаваная драўляная каплічка. Яна і цяпер стаіць тут прыбраная, прыгледжаная. На яе сценах унутры – іконы. Адчыніш дзверы каплічкі, і можна туды зайсці, перахрысціцца, пастаяць перад святымі абразамі, сказаць малітву ці памаўчаць, папрасіць у бога аб нечым, супакоіць душу. Сапраўдны маленькі вясковы храм з купаламі і з крыжам зверху. Магчыма, нідзе на свеце больш няма такога маленькага божага храма, як у Лёпаўшчыне.

Кажуць, што калісьці ў наваколлі разыгралася эпідэмія іспанкі, шмат людзей памірала ад яе. Людзі ў Лёпаўшчыне часта маліліся тады каля капліцкі і прасілі міласці ў бога. І хвароба абмінула вёску, ніхто тут не памёр.

А ў першую сусветную вайну немцы пабудавалі агароджу вакол капліцкі і падаравалі для яе сваю ікону, якая і цяпер вісіць на сцяне ў капліцы.

У другую сусветную вайну быў такі выпадак. Партызаны ноччу падарвалі на дарозе каля Лёпаўшчыны нямецкую аўтамашыну. У адказ на гэта раніцай немцы з'явіліся ў вёсцы, вывелі ўсіх мужчын з хат на вуліцу, паставілі ў рад і пагналі ў бок да лесу, каб там расстраляць. Людзі дайшлі да капліцкі і сталі на калені, пачалі маліцца. Раптам нямецкі афіцэр спыніў сваіх ваяк, даў магчымасць памаліцца, а потым загадаў усім ісці па сваіх хатах. Усе засталіся жывымі.

...Цяпер вёска жыве сваімі клопатамі, нібыта ў баку ад усіх і ўсяго, бездапаможная...

**Уладзімір КАЖАМЯКА, в.Ілья.**

■ МОЛАДЗЬ І ВЁСКА

# Як я шукаў работу

**Неяк спрачаліся мы з цесцем познім вечарам на кухні. Не, пілі чай, цесць у мяне не спажывае спіртное. Можа, таму ніхто з нас у спрэчках не стаў пераможцам.**

Ужо пазней, праз 2 дні, калі аналізаваў размову і ўспамінаў калгасы, прамільгнула думка: "А можа ён мае рацыю? Не ўсё так дрэнна?"

— Правер, — падказала жонка. – Вось на стале ляжыць тэлефонны даведнік, патэлефануй і будзеш ведаць.

Што ж, вырашана, будзем знаёміцца з сельскім жыццём. Каб не блытацца, мы вырашылі застацца самі сабой: сям'я – маладая, дачка 5 месяцаў, без жылля (для вёскі); муж – 25 гадоў, базавая адукацыя – ПТВ-200 (вадзіцель, механізатар), вышэйшая адукацыя юрыдычная; жонка – 22 гады, базавая адукацыя – бухгалтар, у гэтым годзе заканчвае эканамічны факультэт ВНУ. Сям'я жадае працаваць, зарабляць, поўная энтузіязму і згодная на любую годную работу.

І вось што з гэтага атрымалася, які лёс маладых спецыялістаў на вёсцы ў будучым.

Выбралі мы ў тэлефонным даведніку наўздагад раённае унітарнае прадпрыемства **(РУП) "Даўгінава"** і адразу ж акунуліся ў сельскі быт. Даволі гаваркая жанчына з аддзела кадраў, калі выслухала нас, сказала, што ў іх жылля "да хрэна і трошкі", ёсць розныя дамы: "добрыя і ў жаласным выглядзе". Што па рабоце, то нас адразу ж накіравалі да дырэктара, які сам нядаўна працуе ў гэтай якасці. **Валеры Кішкурна** выслухаў, параіў патэлефанаваць пазней, абнадзеіў, што "работа і перспектыва будуць", аднак на працягу года спецыялістаў не патрабуецца.



Жыццё калгаснае... Фота ByMedia.Net

У сельскавытворчым кааператыве **(СВК) "Вязынскі"** вельмі абрадаваная дзяўчына (маім званком?) сказала, што ў іх "5 вельмі добрых, новых домікаў, работа ёсць, зарплата каля 200 тысяч" і наогул "мы цяпер пад ДРБУ – дык усё добра". Зноў паслала да старшыні, якога не апынулася на месцы.

Пасля такіх перспектыў мы наведаліся ў лепшае сельгаспрадпрыемства раёна **"Нарачанскія зоры"**, дзе старшыня, выслухаўшы, адразу адрэзаў, што для нас у яго нічога няма і нічога не будзе.

Ну, калі ў такіх гаспадарках, моцных, нічога няма, то прыйдзецца звярнуцца ў адсталыя.

**РУП "Лукавец"** адзначыўся тым, што трубку тэлефона аддзела кадраў зняў вельмі вясёлы мужчына. Адрэкамендаваўся пенсіянерам з вёскі Мардасы, заўважыў, што глядзіць "Клон" і пытанні сёння "н-не вы-вы-ра-рашаю".

Пачуўшы такую гаворку, мы патурбавалі **СВК "Вілейскі"**, што ў Куранцы. Жанчына даволі прыемным голасам нам адказала, што ў іх "працуе ўсяго 120 чалавек, юрыст нам не патрэбны, бухгалтэрыя ўкамплектаваная, з жыллём ёсць праблемы і наогул, за 120-130 тысяч вы тут працаваць не будзеце". Папрасіла прабачэння і параіла патэлефанаваць у іншыя гаспадаркі.

Вельмі прыветліва да нас аднесліся ў **СВК "Барэц"** (Мільча), запэўнілі, што работа знойдзецца, маладыя людзі ім вельмі-вельмі патрэбныя, жыллём забяспечым, дзіця ўладкуем у дзіцячы сад (у 5 месяцаў?). Старшыня папрасіў пад'ехаць да яго асабіста і абяцаў дапамагчы.

У прыёмнай **СВК "Новая Любанія"** пачуўшы, што мы маем вышэйшую адукацыю, дзяўчына-субяседніца чуць не крыкам запэўніла нас, што "нешта ёсць, цяпер-цяпер пачакайце" і памчалася да старшыні. Праз хвіліну да нас данёсся вельмі сумны голас і сказаў, што дапамагчы нічым не можам, вакансій няма.

**У РУП "Першы беларускі"** дырэктар адказаў, што нам нічога не свеціць. У СВК "Язні" і СВК "Сцешыцы" папрасілі патэлефанаваць дні праз 2, непасрэдна старшыні. А ў астатніх гаспадарках ці было ўсё занята, ці ніхто не падымаў трубку, ці, падняўшы, гаварылі штосьці незразумелае. Вядома ж, уборачная пара.

У выніку апытання мы даведаліся, што работа знойдзецца, няхай нават і не па профілі, жыллё таксама ёсць. Значыць, галоўныя праблемы вырашаны. Адзінае, што не суцяшае, дык гэта заработная плата. Вышэй за 200 тысяч рублёў мне нідзе не прапанавалі. Улічваючы датацыю жонкі (73 тысячы), усяго б у нас атрымалася каля 300 тысяч. Сума эквівалентная амаль 150 доларам на траіх чалавек для сельскай мясцовасці прымальная, але, улічваючы інфраструктуру вёскі, яе развіццё, жадання ехаць туды няма. Хаця мы ніколі не баяліся цяжкасцяў, пачынаць жыць практычна з нуля неяк не хочацца. Ды і дачцэ хочацца лепшай будучыні, больш перспектыўнай.

Таму словы спецыяліста адной з сельскіх гаспадарак гучалі як прысуд вёсцы: "Ды што вы надумалі, маладыя яшчэ ды і з дзіцем? Хочаце тут усё жыццё ў гнаі корпацца, працаваць з раніцы да вечара і свету белага не бачыць? Гэта мы, старыя, тут як-небудзь дапрацуем, а вам, разумным і маладым, іншае шукаць трэба – тут толькі дурні ды п'яніцы застаюцца".

...Чарговыя спрэчкі з цесцем на кухні зацягнуліся за поўнач, і зноў у спрэчцы ніхто не перамог. Хоць на вёсцы бутэлька і з'яўляецца важным прадуктам, у той вечар яна на стале зноў адсутнічала. Цесць у мяне не п'е. Ужо 18 гадоў.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ,**
**Вілейка, maza@tut.by**

**P.S. Аўтар просіць прабачэння за адрыў ад работы і за тое, што кіраўніцтва, магчыма, разлічвала на новых людзей ў сваіх гаспадарках.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Дзіцячаму хоспісу – 10 гадоў

**МІНСК. Рэспубліканскай грамадскай дабрачыннай арганізацыі «Беларускі дзіцячы хоспіс» споўнілася 10 гадоў. Арганізацыя з'яўляецца першым дзіцячым хоспісам на тэрыторыі СНД і адным з чатырох хоспісаў у Беларусі, членам асацыяцыі па паліятыўнай медыцыне і членам міжнародных хоспісных арганізацый.**

— Пачыналася ўсё з энтузіястаў і валанцёраў, якія разумелі неабходнасць падобнага праекта ў Беларусі, — сказала дырэктар дзіцячага хоспіса **Ганна Гарчакова** гасцям, якія 17 верасня прыйшлі павіншаваць удзельнікаў праекта.

Хоспіс для анкахворых і хранічна хворых дзяцей, які напачатку займаў толькі адзін пакой у Першай гарадской бальніцы, мае на сённяшні дзень сетку самастойных будынкаў і філіялы ў Гомелі, Віцебску і Магілёве.

Пацыенты Беларускага дзіцячага хоспіса – дзеці з анкалагічнымі захворваннямі, пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, з прыроджанымі цяжкімі хранічнымі парокамі.

**Паводле БелаПАН.**

# ЭпітафіЯ – не надмагільны надпіс

## А група маладых музыкантаў са Смаргоні

**СМАРГОНЬ. Стыль музычнай групы "ЭпітафіЯ" самі яе ўдзельнікі вызначаюць як рок з элементамі кора, хэві, дэза, панку.**

Група "ЭпітафіЯ" даволі маладая: яе гісторыя пачалася ў кастрычніку 2003 года. Тады мясцовыя рок-каманды рыхталіся да канцэрта на свяце горада. За 2 дні да канцэрта высветлілася, што ў калектываў "Crock of shit" і "Цепная реакция" (былы "СТЭЛС") не хапае для выступлення людзей. Таму вырашылі выставіць адну аб'яднаную групу. Назву ёй далі "ЭпітафіЯ".

Увогуле, эпітафія – надмагільны надпіс, але музыканты не суадносяць гэта з групай. Калі падбіралі назву, разгарнулі тлумачальны слоўнік на літары "Э" і выбралі слова, якое ім проста спадабалася.

Пасля першага канцэрта група не распалася: пачаліся рэпетыцыі, якія і сёння праводзяцца ў Доме культуры, выступленні на Дзень Святога Валянціна, сольны канцэрт у маі. У чэрвені гэтага года хлопцы выязджалі ў Ашмяны на канцэрт да Дня моладзі. А таксама далі дабрачынны канцэрт у дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Лясная паляна", што ў Смаргонскім раёне.



Музыканты «Эпітафіі» жадаюць усім добрым людзям слухаць добрую, сапраўдную музыку. Фота з альбома групы.

Паслухаць "Эпітафію" прыходзяць і сямейныя пары з дзецьмі, і людзі пажылога ўзросту. Пераважае, канечне, моладзь. Падчас канцэрта музыканты не толькі прапаноўваюць сваю музыку, але і жартуюць, ладзяць прыколы, конкурсы, аўкцыёны. Напрыклад, на прэзентацыі першага альбома "Чаму каханне..." гледачы-слухачы атрымалі ў падарунак каля 40 дыскаў групы.

Сам дэбютны альбом "Чаму каханне..." быў запісаны амаль у дамашніх умовах і выйшаў накладам каля 200 дыскаў. У яго ўвайшлі 12 песень рознай накіраванасці: ад рамантычна-павольнай "Халады" да "След" і "Замак", якія заводзяць сваім драйвам.

Склад групы канчаткова сфарміраваўся ў сакавіку 2004 года. Сёння ў яе ўваходзяць **Сяргей Мядзведскі** (Мядзведзь) – вакал, **Анатоль Занкавіч** (Хірург) – бас-гітара, **Максім Родзін** (Макс) – сола-гітара, **Леанід Чурылаў** (Чудзіла) – вакал, **Дзяніс Арлоў** (Арол) – рытм-гітара, бэк-вакал, **Аляксандр Лысянок** (Калматы) – ударныя. Сярэдні ўзрост хлопцаў – 20 гадоў. Музыку і тэксты ствараюць самі. Сябруюць з групамі "Палац", "Каніфоль", "ДНК", "Стрэйтч". З'яўляюцца прыхільнікамі Metallica, Dead Marsh, Guano Apes, Apocalyptica, Slipknot, "Зьніч".

Цяпер хлопцы з "Эпітафіі" плануюць запісаць другі альбом, зняць кліп, удзельнічаць у рок-канцэртах у Ашмянах і Смаргоні. Адправілі заяўку на ўдзел у конкурсе "МузДрайв" у Мінску.

Каманда маладая – ёсць у яе свае цяжкасці і праблемы. Напрыклад, лепшай магла б быць апаратура і абсталяванне. Хлопцам даводзіцца наладжваць усё самім. Трэба аднак адзначыць, што мясцовыя ўлады групе дапамагаюць.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

■ МАЛАВЯДОМАЕ

# Паустоўскі і Маладзечна

**Лёс вялікага рускага пісьменніка XX стагоддзя Канстанціна Паустоўскага звязаны з Маладзечнам.**

Будучы пісьменнік, калі пачалася 1-я імперыялістычная вайна, быў вызвалены ад вайсковай павіннасці. У першыя месяцы працаваў кандуктарам маскоўскага трамвая. Затым – санітарам на тылавых і палявых санітарных паяздах. Дарэчы, у адным санітарным цягніку з Канстанцінам Георгіевічам ездзіла па Беларусі і Польшчы і празаік, паэтэса, дзіцячая пісьменніца, а тады сястра міласэрнасці Соф'я Фядорчанка (1880-1959). І ўсё ж Паустоўскі пераходзіць у палявы санітарны атрад. І разам з ім адступае ад польскага Любліна да беларускага Нясвіжа.

У Нясвіжы, дакладней, у Гарадзеі (у пачатку XX стагоддзя – Замір'е) атрад спыняецца на восень і зіму 1915-1916 гадоў. І Паустоўскі – з атрадам. Матаецца то ў Мінск, то яшчэ куды. Сярод адрасоў, якія не абмінуў увагай будучы славуты пісьменнік, — і Маладзечна. У маладзечанскай гісторыка-дакументальнай хроніцы "Памяць" змешчаны артыкул Г.Каханоўскага, А.Каханоўскага "У час ваеннай віхуры". Чытаем: "Хаос вайны прыдаваў Маладзечаншчыне жудаснае становішча. Тысячы трупаў валяліся не толькі на лініі агню. Тыя рэаліі вайны на маладзечанскім участку фронту апісвае К.Паустоўскі, М.Гарэцкі, Я.Гашак, В.Катаеў, І.Каржанеўская і іншыя. У аповесці "Маладзечна" з абурэннем, гневам, асуджэннем братазабойства пісаў пра тыя дні сведка падзей венгерскі пісьменнік Б.Ігеш. Асуджаў гэтую з'яву і чэшскі паэт Я.Бернарж у вершы "Маладзечна".

Паспрабуем "расшыфраваць" маладзечанскую тэму ў творчасці Канстанціна Паустоўскага. "Аповесць пра жыццё" – адзін з найцікавейшых твораў пісьменніка. У ім аўтар, расказваючы найперш пра сябе, пра свае ўласныя трывогі і сумненні, як быццам пакінуў наступнікам свой мастацкі тэстамент. Другая частка "Аповесці пра жыццё" – "Неспакойнае юнацтва". Надрукавана ў часопісе "Новый мир" (удакладняем: упершыню надрукавана ў 3-6 нумарах часопіса "Новый мир" за 1955 год). Чытаем: "У кастрычніку (размова пра 1915 год. А.К.) на фронце надышло зацішша. Наш атрад спыніўся ў Замір'і, паблізу чыгункі з Баранавіч на Мінск. У Замір'і атрад прастаяў усю зіму...". І далей: "Я шмат ездзіў у тую зіму па маленькіх гарадах і мястэчках Беларусі. Ездзіў то конна, то на цягніках. Тады Беларусь выглядала так, як выглядаў бы старажытны пейзаж, павешаны ў замызганым буфеце прыфрантавой станцыі. Сляды мінулага былі відаць яшчэ паўсюдна, але гэта была толькі абалонка, з якой выветрыўся змест"...

Расказваючы пра свой унутраны стан, пісьменнік дзяліцца сваімі трывогамі: "Любая дробязь выклікала ў мяне ўнутранае трымценне, сумныя думкі і разгубленасць.

Так было, прыкладам, у Маладзечне. Я начаваў у пустым напаленым вагоне трэцяга класа на запасных пуцях. Прачнуўся на досвітку... Я ляжаў пад шынялём на драўляной лаўцы і нават крыху сагрэўся. На пуцях зайграў горніст. Пэўна, на станцыі стаяў эшалон. Гук трубы падаўся плачам, звінеў. Усё ў ва мне задрыжала, і я раптам зразумеў, прыслухаўшыся да плачу трубы, усю бездапаможнасць таго асяродку, да якога я належаў, усё маё разладжанае, няўтульнае і адзінокае жыццё...".

У хуткім часе санітар Паустоўскі быў моцна паранены ў нагу. Аказаўся ў шпіталі ў Нясвіжы. Там выпадкова даведаўся, што загінулі два яго браты. Выехаў у Маскву – праз Гарадзею-Замір'е. Але Маладзечна не згубілася ў памяці. Усплыве яшчэ наш беларускі горад і ў "Аповесці пра жыццё". Ваенны цэнзуры патрапіць адзін "беларускі" ліст Паустоўскага, дзе санітар злёгку сатырычна-карыкатурна апісвае візіт імператара на Заходні фронт. У Маскве ў сувязі з гэтым будучага пісьменніка звальняюць са службы.

Паустоўскі з'язджае на поўдзень, спрабуе сябе ў самых розных занятках. У ваколіцах Таганрога атрымлівае пісьмо і ад франтавога таварыша Раманіна. Не ўскрываючы яго, прымае рашэнне вярнуцца ў Маскву. У душы – перажыванні. Найперш з-за таго, што ён не з усімі. Згадвае словы Палонскага: "Пісьменнік, калі ён толькі хваля, а акіян – Расія, не можа быць не абураны, калі абурана стыхія". Вярнуўшыся ў Маскву, Канстанцін ідзе ў Саюз гарадоў. Бо Раманін жа напісаў: "Што датычыць вас, то, мусіць, цяпер могуць ізноў прызначыць у атрад. Націсніце ў Маскве і прыязджайце...". Атрад, як пісаў Раманін, быў тады ўжо пераведзены з Замір'я-Гарадзеі ў Маладзечна. Але Паустоўскага на службу не прызвалі.

Маладзечна – і ў лістах Паустоўскага да жонкі Кацярыны Загорскай. 8 лістапада 1915 года Канстанцін Георгіевіч піша з Замір'я: "Еду ў Маладзечна ў Мінск...".

Беларускія адрасы Паустоўскага – Брэст, Кобрын, Слонім, Ружаны, Замір'е-Гарадзея, Мінск, Гомель... Ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны пісьменнік зрабіў спробу аб'ехаць вядомую яму Беларусь. У першай кнізе задуманага трохтомнага даведніка "Літаратурныя мясціны Беларусі" ў расповядзе пра Віцебск ёсць наступныя згадкі: "Паустоўскі Канстанцін... Быў у Віцебску ў 1950-я. У нарысе "Вецер хуткасці" ("З дарожнага дзённіка",1955) занатаваў свае ўражанні ад наведвання горада: "Даўно, яшчэ ў дзяцінстве, мне чамусьці вельмі хацелася трапіць у Віцебск. Рэдка бывае, што наша ўяўленне пра што-небудзь супадае з рэчаіснасцю. Але з Віцебскам здарылася так. Мы прыехалі ў Віцебск у прыцемках. Захад дагараў за Дзвіной. У познім агні пагорказы горад здаўся вельмі жывапісным".

Пра візіт Паустоўскага ў Беларусь на ўласнай машыне ўспамінаў (ці не ў той жа час гэта адбылося, пра які гавcovрыцца ў даведніку?) і Павел Кавалеў. У Мінску ён дапамагаў рускаму пісьменніку ў рамонце аўтамабіля. Але Канстанцін Георгіевіч парушыў свае планы, бо з ім звязаліся з Масквы і чамусьці папрасілі тэрмінова вярнуцца. Пісьменнік завярнуў дахаты. А між тым, не выключана, што ў планах яго была сустрэча з даўно вядомымі маладзечанскімі, нясвіжскімі, кобрынскімі ваколіцамі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КАЛЯНДАР

**26 верасня. 40 год з часу ўтварэння на месцы вёскі Купа курортнага пасёлка Нарач**, (Мядзельскі р-н; 1964).

**27 верасня. 75 год з дня нараджэння Яўгена Рапановіча** (1929, в. Холма Мядзельскага р-на - 1987), мовазнаўцы, фалькларыста. Самая грунтоўная лексікаграфічная праца Рапановіча – слоўнікі назваў населеных пунктаў Беларусі па абласцях. Складальнік зборніка "Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі" (1958, 2–е выданне 1974), апавяданняў для дзяцей, перакладаў з іншых моў.



**29 верасня. 475 год з часу ўвядзення ў дзеянне Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г.**, першага Статута ВКЛ, звода законаў феадальнага права (1529 - 1566).

**29 верасня. 260 год з дня нараджэння Міхала Гераніма Радзівіла** (1744 - 1831), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, мецэната.

**29 верасня. 210 год з дня нараджэння Ігната Ходзькі** (1794 - 1861), пісьменніка, мемуарыста, грамадскага дзеяча. Пахаваны ў Войстаме Смаргонскага раёна.



**29 верасня. 80 год з дня нараджэння Іосіфа Ляшчынскага** (1924, м. Івянец), дзеяча аматарскага тэатральнага мастацтва, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.



**30 верасня. 250 год з дня нараджэння Міхала Паца** (1754 - 1800), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, генерал-маёра войска ВКЛ.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Васіль і Гэля Раманоўскія

**МАЛАДЗЕЧНА. Я ведаў гэтых людзей у больш сталым узросце і быў здзіўлены фотаздымкамі, адзін з якіх тут бачыце. Маладыя, прыгожыя, спакойныя, ўпэўненыя. Як выглядалі, як апранутыя! Трыццатыя гады мінулага стагоддзя...**

Іх аб'яднала мястэчка Краснае, якое ў той час было сапраўдным цэнтрам наваколля. Тут былі крамы, тут адбываліся кожны тыдзень кірмашы, тут можна было навучыцца нейкай прафесіі. Ён родам з вёскі Мясата, яна мела бацькоў на хутары бліз вёскі Сядзіца і вучылася ў Красным на швачку.

Пабачыўшы Еўропу падчас тэрміновай вайсковай службы, браты Раманоўскія пабудавалі прыгожы дом у Красным, туды і прыйшла маладая гаспадыня Гэля. Яе бацькі былі супраць шлюбу з Васілём, бо ён быў больш бедны за іншых жаніхоў. Насуперак іх волі яна пайшла за Васіля. Гэта было ў 1936 годзе.

Цяпер комін гэтага дома аблюбавалі буслы...

**Алесь ХАРЫТОН, Краснае.**



Васіль і Гэля Раманоўскія ў Красным. 1930-я гады XX стагоддзя.

Фота з альбома сям'і Раманоўскіх у Красным.

■ НАВІНЫ

## Сустрэлі юбілей Эпімах-Шыпілы

**МІНСК. 16-17 верасня ў Беларусі прайшлі мерапрыемствы ў рамках святкавання 145-годдзя з дня нараджэння дзеяча беларускага нацыянальнага Адраджэння Браніслава Эпімах-Шыпілы.**

Напярэдадні ў Мінску ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы выступілі паэты **Сяргей Панізнік** і **Навум Гальпяровіч**, краязнаўца **Уладзімір Содаль**, супрацоўнікі музея.

Выступоўцы адзначылі, што імя Браніслава Эпімах-Шыпілы стаіць у адным шэрагу з імёнамі такіх дзеячаў як Янка Купала і Якуб Колас, Аркадзь Смоліч, Мітрафан Доўнар-Запольскі, аднак дагэтуль не выдадзена ніводнай яго кнігі.

Пісьменнік, публіцыст, бібліёграф, тэатразнаўца, палітык, паліглот Браніслаў Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 16 верасня 1859 года ў мястэчку Ветрына на Віцебшчыне. Большую частку жыцця пражыў у Санкт-Пецярбургу, дзе стаў адным з арганізатараў беларускага нацыянальнага руху.

**Паводле БелаПАН.**

■ ПАРАЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# Золата Паралімпіяды – у маладзечанца!

**МАЛАДЗЕЧНА. Ігар Фартунаў заваяваў залаты медаль на Паралімпійскіх гульнях. У сераду, 22 верасня, ён выступаў у лёгкаатлетычным пяціборстве.**

Лідэрства змог захапіць толькі пасля чацвертага віду праграмы, кідання дыску. Таксама добра ў яго атрымаўся трэці від – бег на 100 метраў.

Днём раней, 21 верасня, Фартунаў выйграў серабро ў сваіх каронных скачках у даўжыню, хаця адчуваў праблемы з траўміраванай нагою. Тут лідзіраваў да апошняй спробы, пасля спартсмен з Кубы апярэдзіў яго на 6 сантыметраў.

## Шапцібой

У першы дзень Гульняў, 18 верасня, на старт выйшаў наш велатандэм. Шапцібой са здаровым лідэрам Данілікам прынялі ўдзел у трэкавых спаборніцтвах у індывідуальным праследаванні на 4 км.

Тут разам выступалі па аднолькавых умовах прадстаўнікі ўсіх катэгорый інваліднасці па зроку. Увогуле катэгорыя Васіля – В2. Яна азначае, што атлеты могуць распазнаць абрысы рукі да вастрыні зроку, роўнай 2/60 нормы, ці (альбо) поле іх зроку, меншае за 5 градусаў.

Беларусы ў кваліфікацыйным раундзе занялі 10 месца з 19 удзельнікаў. Такім чынам, яны не прабіліся ў васьмёрку мацнейшых, якая працягвала барацьбу за медалі. Нашы спартсмены перадолелі дыстанцыю за 4 хвіліны 43,245 секунды (сярэдняя хуткасць 50,839 км/г). Першынстваваў аўстралійскі тандэм з сусветным рэкордам 4.21,451 (55,077).

## Жукоўскі

Назаўтра, у нядзелю, спаборнічаў Жукоўскі ў скачках у даўжыню.

Яго катэгорыя – В1. Па правілах, яе складаюць атлеты, якія не ўспрымаюць святло ні на якое вока, а таксама атлеты з успрыманнем святла, якія не могуць бачыць абрысы рукі.




Паралімпійскі чэмпіён Ігар Фартунаў падчас аднаго з візітаў у "Рэгіянальную газету". Фота Ірыны РАБУШКІ.

З шасці спроб суддзі залічылі Віктару тры. У найлепшым скачку ён дасягнуў 5 м 83 см. Гэта адпавядае 8 месцу з 13 удзельнікаў. Пераможца з Кітая меў 6,40. Сёлетні лепшы вынік у Жукоўскага – 5,89, а яго асабісты рэкорд – 6,20.

## Фартунаў

У той жа дзень Фартунаў для размінкі выступіў у бегу на 200 м, прыняўшы ўдзел у паўфінальным старце. У выніковым пратаколе заняў 11 пазіцыю з 12 удзельнікаў.

Катэгорыя Ігара – В3, дзе сабраны атлеты з вастрынёй зроку ад 2/60 да 6/60 нормы альбо з полем зроку, большым за 5 градусаў і меншым за 20 градусаў.

21 верасня, у аўторак, 9 удзельнікаў змагаліся ў скачках у даўжыню, дзе сусветным рэкордам (7,34), усталяваным у 1998 годзе, валодае якраз Фартунаў. Ён у першай спробе з кароткага разбегу, страхуючы траўміраваную нагу, заляцеў на 7,09. Другую спробу выконваў на поўную моц, і адразу ж адчуў боль, які перашкодзіў паўнацэннаму выступленню. Ад наступных трох спроб нагогул адмовіўся. Ігар лідзіраваў да апошняга скачка кубінца А.Хіменэса, калі той паказаў вынік 7,15. Маладзечанец паспрабаваў выкарыстаць шостую, апошнюю, магчымасць, але не атрымалася. Прадстаўнік Палесціны, які стаў трэцім, адстаў намнога – 6,59.

Найбольшая колькасць ачкоў набрана ў скачках і спрынце, а прадвызначыла вынікова першынство кіданне дыску. У суме Фартунаў набраў 3017 ачкоў. Другое месца заняў таксама беларускі спартсмен **Аляксандр Трыпуць** – 2939 ачкоў. Трэцім стаў прадстаўнік Бельгіі – 2758 ачкоў. Для даведкі – сусветны рэкорд раўняецца 3155 ачкам.

Цікава, што з 12 стартаваўшых удзельнікаў толькі пяцёра "дажылі" да фінішу пяціборства.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Залаты дзень

Серада стала самым шчаслівым днём для маладзечанскага інваспорту. Табліца адлюстроўвае ход выступлення Фартунава ў пяціборстве. Яна складзена наступным чынам: час пачатку дысцыпліны – назва дысцыпліны – вынік – колькасць ачкоў у дысцыпліне – месца ў дысцыпліне – месца пасля дысцыпліны.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 9-00 | скачкі ў даўжыню | 6,57 | 713 | 2 месца | 2 месца |
| 10-30 | кіданне кап'я | 41,07 | 458 | 6 месца | 3 месца |
| 12-00 | бег 100 м | 11.60 | 732 | 1 месца | 3 месца |
| 17-00 | кіданне дыску | 36,64 | 597 | 1 месца | 1 месца |
| 19-00 | бег 1500 м | 5:07.48 | 517 | 4 месца | 1 месца |

Найбольшая колькасць ачкоў набрана ў скачках і спрынце, а прадвызначыла вынікова першынство кіданне дыску. У суме Фартунаў набраў 3017 ачкоў. Другое месца заняў таксама беларускі спартсмен Аляксандр Трыпуць – 2939 ачкоў. Трэцім стаў прадстаўнік Бельгіі – 2758 ачкоў. Для даведкі – сусветны рэкорд раўняецца 3155 ачкам. З 12 стартаваўшых удзельнікаў толькі пяцёра "дажылі" да фінішу пяціборства.

**Табло**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**Васіль Капцюх заняў трэцяе месца на прэстыжных камерцыйных спаборніцтвах "Залатая ліга ІААФ" у Берліне.**

Ён кінуў дыск на 65 метраў 45 сантыметраў.

■ ФУТБОЛ, АМАТАРЫ

**У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці ДЮСШ-2 (Смаргонь) займае 6 месца з балансам +14=4-6 50-23, 46 ачкоў. Праведзены матчы – "Хімвалакно" (Гродна) 0:5 на выездзе, ФК-2 (Ліда) 1:0 дома.**

У чэмпіянаце Мінскай вобласці "Камунальнік" (Маладзечанскі раён) мае баланс +9=2-10 44-34, 29 ачкоў. Праведзены матчы – "Любань" 5:1 дома, "Старыя Дарогі" 1:2 на выездзе, "Нёман-ПМК-74-Налібокі" (Стоўбцы) 1:0 на выездзе.

У спаборніцтвах "Хрустальны мяч" ДЮСШ-2 (Маладзечна) пакуль не набрала ачкоў: +0=0-6 2-24.

■ ГАРАДОШНЫ СПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Адбыліся матчы другога круга клубнага чэмпіянату.**

Шэсць каманд спаборнічалі па кругавой сістэме 17-19 верасня. У выніку адразу трое з іх – МЭС (Маладзечна), "Нёман" (Бярозаўка) і "Аўтасіб" (Мінск) – набралі па 9 ачкоў. Па выніках усяго чэмпіянату турнірная табліца выглядае наступным чынам:

1. Нёман (Бярозаўка) ..... 24
2. Кэмпі (Маладзечна) ... 18
3. МЭС (Маладзечна) ..... 18
4. Маладзечнамэбля ...... 11
5. Аўтасіб (Мінск) ......... 9
6. Маладзечанскі раён ... 8

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ АНОНС

МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйнае XIII веларалі "Маладзечанская восень" пройдзе 26 верасня. Даўжыня першага этапа каля 23 км, другога – каля 52 км. Рэгістрацыя 26 верасня ў турклубе "Пілігрым" да 9.30. Старт у 10.00. Пры сабе мець веласіпед, компас, ручку.

Святлана ЦІШКО.

**26 верасня. Камунальнік (Слонім) – Смаргонь.**
+2=1-2 3-3. У першым крузе – 0:1 дома.

**26 верасня. Бяроза – Маладзечна.**
+2=0-1 5-4. У першым крузе – 1:3 (Вяжэвіч) дома.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# 4 галы Вярстака за тыдзень

**Ліда – Смаргонь 0:1.**

Гол: Вярстак (48-пен).

Склад: Міхайлаў, Бычкоўскі, Рыбак (Раманоўскі,37), Дукса (Курак,67), Трындзюк, Тарасаў (Новаш,70), Аўраменка, Сафронаў, Цыбуль, Андрэенка, Вярстак.

Вярстак не рэалізаваў пенальці на 90 хвіліне.

18 верасня. 500 гледачоў. Суддзя Ярац.

**Смаргонь – Вертыкаль (Калінкавічы) 6:0.**

Галы: Аўраменка (16), Вярстак (24, 43, 59), Крот (29), Андрэенка (55).

Склад: Міхайлаў – 4.Дукса, 2.Бычкоўскі, 3.Раманоўскі (12.Беніцэвіч,77), 5.Трындзюк – 6.Тарасаў (13.Новаш,62), 7.Аўраменка, 10.Андрэенка, 9.Цыбуль – 8.Крот (18.Сафронаў,52), 11.Вярстак.

22 верасня. 1500 гледачоў. Суддзя Дайлід.

Ужо да перапынку лік быў 4:0 – гаспадары дзейнічалі ў сваё задавальненне, дарэчы, страціўшы нямала іншых спрыяльных сітуацый.

**Вярстак** дамогся хет-трыку, і ў яго стала 11 галоў у 9 праведзеных за каманду матчах.

Спачатку форвард прабіўся па правым фланзе ў штрафную і сам жа дакладна прабіў. Потым ён выдатна выканаў штрафны ўдар метраў з трыццаці, накіраваўшы мяч у правы верхні кут. Нарэшце замкнуў прастрэльную перадачу **Тарасава**, які прайшоў да варот справа.

**Аўраменка** забіў ударам метраў з дваццаці. **Крот** пасля шэрагу нявыкарыстаных момантаў дасціпна падставіў нагу пад навес Вярстака. **Андрэенка** вызначыўся ўдарам галавою пасля падачы штрафнога злева **Цыбулем**.

Мікіта ЛІСТАПАД.

**Маладзечна – Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) 0:0.**

Склад: Кудзі – Пятроўскі, Дрозд, Мятліцкі (Неўдомскі,65) – Татун, Дараховіч (Касцюк,46), Ляпета, Шушкевіч, Г.Савіцкі – Грыхуцік (Вяжэвіч,46), Гірко.

Выдалены Г.Савіцкі на 90 хвіліне.

18 верасня. 300 гледачоў. Суддзя Калачынскі.

**Маладзечна – Баранавічы 2:5.**

Галы: Гірко (22), Вяжэвіч (68); (15), (34), (54), (65), (87).

Склад: Кудзі – Пятроўскі, Неўдомскі, Дрозд – Татун, Ляпета (Ясюкевіч,46), Дараховіч (А.Савіцкі,67), Касцюк (Вяжэвіч,46), Мятліцкі – Грыхуцік, Гірко.

22 верасня. Суддзя Звярок.

Гэты матч зноў паказаў, што галоўныя праблемы "Маладзечна" ў другім крузе звязаны з абарончай лініяй, у першую чаргу, пазіцыяй апошняга абаронцы. **Гірко** зраўняў лік, узяўшы гульню на сябе: прасунуўся з мячом да чужой штрафной і прабіў. Напачатку другога тайма ў гаспадароў было тры добрыя моманты, але рэалізаваць іх не ўдалося. Потым флангавую падачу Гірко галавою замкнуў **Вяжэвіч**.

Баранавічы – Камунальнік 2:2, Вертыкаль – Хімік 0:0, Граніт – Лакаматыў 0:1, Верас – ЗЛіН 0:1, Тарпеда-Кадзіна – Ведрыч-97 0:0, Бяроза – Дынама-Юні 2:0. Дынама-Юні – Тарпеда-Кадзіна 1:3, Ведрыч-97 – Верас 1:0, ЗЛіН – Граніт 0:1, Лакаматыў – Ліда 1:0, Хімік – Камунальнік 1:0.

1. Лакаматыў ..................... 59
2. Ведрыч-97 ..................... 51
3. Смаргонь ....................... 44
4. ЗЛіН ............................. 38
5. Баранавічы ..................... 36
6. Хімік ............................. 34
7. Бяроза (-1) ..................... 32
8. Верас ............................ 32
9. Маладзечна ..................... 31
10. Граніт ........................... 30
11. Ліда .............................. 24
12. Камунальнік .................. 21
13. Тарпеда-Кадзіна ............ 19
14. Дн.-ДЮСШ-1 (-1) .......... 18
15. Дынама-Юні .................. 17
16. Вертыкаль ..................... 17

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

# ВІНШАВАНКІ

З юбілеем!
Сёстрам-блізнятам **Тані Жук** з Лыцавічаў і **Але Юшцы** з Вілейкі!

І Тані, і Але жадаем мы зноў
Здароўя і шчасця, выдатных сыноў,
І ладу, і згоды, настрою заўжды!
Вы будзьце шчаслівыя,
не знайце бяды!
*Сёстры Марына і Аня і іх сем'і.*

З юбілеем!
**Стоке Маргарыту** з Вілейкі
От всей души с большим волненьем,
Красивых слов не находя,
Мы поздравляем с днем рожденья,
С 20-летием тебя.
*Краўчанкі.*

Віншуем пляменніка **Віталія Прадко** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, поспехаў у працы. *Сям'я Цішко.*

Віншую **Віталія Прадко** з днём нараджэння! Жадаю ўсяго самага лепшага ў жыцці. *Марыя Свірыдэнка.*

З днём нараджэння **Віталія Прадко** віншуюць сястра і пляменніца. Жадаем здароўя і не забываць нас. *Аксана, Карына.*

**Віталь Прадко**! З днём нараджэння! Жадаю маладосці, поспехаў у сям'і. *Цётка з Мінска.*

Віншую **Віталія Прадко** з днём нараджэння! Шчасця, дабрыні, дабрабыту. *Мама.*

*Маладзечанскі турклуб "Пілігрым"* віншуе з днём нараджэння **Яўгена Роўду, Аляксандра Шацілу, Уладзіміра Цая** і жадае моцнага здароўя, шмат грошай, каб хапіла на цікавыя паходы.

**Клябан Святлану** з в.Бараўцы віншую з днём нараджэння! Будзь прыгожай, шчаслівай і здаровай. *Кацярына Вільнявец.*

## ІМЯНІНЫ

**25 верасня. Праваслаўныя**: Сямёна, Фёдара, Юльяна. **Каталіцкія**: Уладзіслава.
**26 верасня. Праваслаўныя**: Ілы, Лук'яна, Юльяна. **Каталіцкія**: Юстыны.
**27 верасня. Праваслаўныя**: УЗВІЖАННЕ (Узвышэнне Крыжа Гасподняга). **Каталіцкія**: Вінцэнта, Космы.
**28 верасня. Праваслаўныя**: Максіма, Мікіты, Сцяпана. **Каталіцкія**: Вацлава.
**29 верасня. Праваслаўныя**: Людмілы, Віктара, Дарафея, Іосіфа, Ісака, Купрыяна. **Каталіцкія**: Міхаліны, Міхала.
**30 верасня. Праваслаўныя**: Веры, Любові, Надзеі, Соф'і. **Каталіцкія**: Соф'і.
**1 кастрычніка. Праваслаўныя**: Ірыны, Соф'і. **Каталіцкія**: Дануты, Тэрэзы.

# ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з тымі, хто піша вершы. E-mail: belaruc@tut.by.

Прыемная жанчына, 55-164-60, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносінаў. Маладзечна-6, п/п МС0455141.

Жанчына, 49-165-60, жадае пазнаёміцца з мужчынам. Маладзечна-6, п/п МС0455141.



■ ПАРАДЫ САДАВОДА І АГАРОДНІКА

# Што і як рабіць у кастрычніку

Кастрычнік – сярэдзіна восені. Дзень прадаўжае змяншацца. Усё ў прыродзе рыхтуецца да зімы. У садзе ўбіраюць апошнія яблыкі позніх сартоў, а лепш гэта зрабіць 1-3, 9, 10, 22, 23 і 29, 30 кастрычніка, абразаюць дрэвы і кусты (8,9 кастрычніка), здымаюць лоўчыя паясы. З паперы спальваюць, а з мешкавіны – кіпяцяць, каб знішчыць вусеняў пладажэркі, сушаць і захоўваюць да наступнага года. Убіраюць падпоркі, дэзінфіцыруюць і ставяць у надзейнае месца.

Угнойваюць прыствольныя кругі, перакопваюць іх лапатай або віламі. Раны на штамбах і суках пакрываюць маслянай або водаэмульсійнай фарбай.

Калі дрэвы хварэюць паршой, іх, пакуль ападзе лісце, апырскваюць растворам аміячнай салетры або мачавіны з разліку 700-800 грамаў на вядро вады.

Яблыні, вішні, слівы і грушы, якія адпладаносілі 10 гадоў і больш (чорныя парэчкі і агрэст – 6-8 гадоў) і якасць іх пладоў пагоршылася, можна выкарчаваць і на іх месца пасадзіць новыя. Па магчымасці пажадана пасадзіць сад на новым месцы, каб адпачыла зямля. Можна памяняць месцам кусты з дрэвамі, а суніцы – з агароднымі культурамі.

Калі набылі саджанцы для закладкі новага саду або рамонту старога, то маліну, парэчкі, агрэст пасадзіце адразу ж на пастаяннае месца, а яблыні, грушы, слівы і іншыя драўнінныя пароды – вясной, да распускання пупышак. На зіму іх саджанцы глыбока прыкапайце з паўночнага боку гаспадарчага будынка.

У агародніках заканчваецца ўборка бульбы і гародніны, пераворваецца або перакопваецца глеба з задзелкай унесеных угнаенняў.

Прымяняюць і такі не ўсім вядомы аграпрыём, як "прымарожванне глебы". Сутнасць яго ў тым, што зямля, якая добра прамерзне на глыбіню 15-20 см, пазбаўляецца ад інфекцыі многіх хвароб і яек ці лічынак шкоднікаў. З гэтай мэтай спрактыкаваныя агароднікі ў час асенняга перакопвання не разбіваюць нават вялікія грудкі. Яны затрымліваюць снег і прапускаюць мароз на большую глыбіню. Выключэнне толькі робяць для глебы на прыствольных кругах пладовых дрэў, каля ягаднікаў, на градках, дзе растуць суніцы, шматгадовая і пасаджаная на зіму гародніна. Гэтыя месцы, наадварот, уцяпляюць мульчай і затрымліваюць снегам. Таму што мароз можа не толькі знішчыць інфекцыю хвароб і зародкі шкоднікаў, але і прыхапіць карані пладовых дрэў і кустоў, загубіць пасаджаную на зіму гародніну.

Месяц з 14 да 28 кастрычніка расце, а ўбывае – з 1 да 14 і з 28 да 31 кастрычніка. Неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры дні – 7-10, 14, 21-23 і 28 кастрычніка. Спрыяльныя дні для пасадкі на зіму часнаку і цыбулі — 2,3 і 6, а для морквы і іншых караняплодаў гэтыя дні і яшчэ 13 і 29, 30 кастрычніка.

Нарыхтоўвайце сокі і квасьце капусту 15 і 16 кастрычніка.

Аграном
**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

# Кінатэатр «Радзіма»

**24-26 верасня. "Модная мамачка"**, ЗША, камедыя – у 17.00, 19.10 і 21.20. **"Калматы спецназ"**, ЗША, камедыя для ўсёй сям'і – у 15.00. **26 верасня** – у 13.00 і 15.00.

**27 верасня – 3 кастрычніка. "Кароль Артур"**, ЗША, 2 серыі – у 16.00, 18.30 і 21.00. Самая скандальная легенда сярэднявечча аб подзвігах караля Артура.

**30 верасня – 3 кастрычніка. "Жывы лес"**, Францыя-Іспанія. Унікальны мультфільм-атракцыён для ўсёй сям'і! Трохвымернае аб'ёмнае адлюстраванне, і ўжо без акуляраў– у 10.00, 12.00 і 14.00. Прымаем калектыўныя заяўкі. Білеты прадаюцца за наяўны і безнаяўны разлікі.

Кожную суботу з 21.00 да 2.00 – відэадыскатэка.

**1 кастрычніка** да Дня пажылых людзей – дабрачынны сеанс. **"Блаславіце жанчыну"**, Расія – у 15.00.

Пракат ліцэнзійных відэакасет па адрасе: вул.Прытыцкага, 19, Вялікі Гасцінец, 121 (відэасалон).

Працуюць гульнявыя прыстаўкі "Соні".

Тэлефоны для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# Чэмпіянат па касьбе

**Беларуска Наталля Парэчына заняла першае месца сярод жанчын на трэцім Нацыянальным чэмпіянаце Польшчы па касьбе "Бебжанские сенокосы". Упершыню сёлета ў ім удзельнічалі 2 каманды з Беларусі – Бярэзінскага біясфернага запаведніка і "Аховы птушак Беларусі".**

Чэмпіянат праводзіцца, каб папулярызаваць такі традыцыйны від дзейнасці, як касьба: гэта дапамагае захаваць адкрытыя нізінныя балоты і іх "насельнікаў". У Бебжанскім нацыянальным парку і беларускіх нізінных балотах Званец, Дзікае, Спораўскае часцей, чым у іншых мясцінах свету, гняздуецца вяртлявая чаротаўка. Пасля асушэння яны зарастаюць і вяртлявая чаротаўка не можа там жыць. Менавіта касьба нізінных балот можа дапамагчы выжыць гэтай вельмі рэдкай птушцы нашага кантыненту.

Спаборніцтва сабрала 25 каманд. Найлепшыя 10 касцоў спаборнічалі на балоце Лаўкі ў асабістым заліку. Менш чым за 6 хвілін прайшлі яны 100-метровую паласу для ўкосу. Найлепшы вынік – 5.38,7. Здавалася, што касцы проста ідуць па балоце, пакідаючы за сабой стужку скошанай асакі шырынёй 1,5 метра. Беларускім камандам не ўдалося дагнаць палякаў і славакаў. Але наша Наталля Парэчына перамагла ў сваёй намінацыі.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Калі скончыцца рамонт?

**Больш месяца на вуліцы Скарыны ідзе рамонт цеплатрасы. Нязручнасці церпяць усе: як пешаходы, для якіх толькі нядаўна паклалі праз канаву дашчаты насціл, так і вадзіцелі. Кожны раз, перш чым трапіць у двор свайго дома, даводзіцца выпісваць кіламетровыя кругі па вуліцах горада і дварах. Хацелася б ведаць, калі нарэшце скончыцца рамонт.**

**Вячаслаў Сямёнавіч, жыхар дома № 46 па вуліцы Скарыны.**

З гэтым пытаннем мы звярнуліся да намесніка дырэктара маладзечанскіх элетрасетак Леаніда Кузняцова. Вось што ён расказаў: "На вуліцы Скарыны мы рамантуем і адначасова мяняем старыя цеплασετκі на новыя, з большай прапускной здольнасцю. Работы плануем скончыць да канца месяца, тады ж будзе адкрыты праезд.

Разумею вадзіцеляў, у іх ёсць пэўныя нязручнасці, але з улікам таго, што з пачаткам новага ацяпляльнага сезона ў кватэрах многіх з іх пасля рамонту стане цяплей, чым мінулай зімой, можна яшчэ крышку пацярпець".

**Марына СЛІЖ.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Добры дзень усім! Вось і адказы на мінулыя пытанні: 1) Класікамі беларускай літаратуры з'яўляюцца Якуб Колас, Янка Купала, Уладзімір Караткевіч і іншыя. 2) Сучасная літаратурная беларуская мова пачала складвацца на пачатку XIX стагоддзя.

На жаль, ніводны з удзельнікаў не прыслаў правільных адказаў. Таму білеты застаюцца ў мяне.

А цяпер папрашу Вас хацяб прыкладна сказаць, колькі нам (рэдакцыі) гадоў.

Адказы прымаюцца да 4 кастрычніка ўключна. Не забывайце, што адказы прымаюцца толькі ў пісьмовым выглядзе з разборліва напісанымі імем і прозвішчам.


Чытачоў азадачваў
**Валянцін ЦІШКО.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

- А/м з Германіі. Можна пад заказ. Т. у Маладзечне 50183, (8-029) 6560483.
- А/м пасля 90-х з Германіі, можна пад заказ, хутка. Т. у Маладзечне 43608, (8-029) 6417853.
- Аўдзі 100, 1984 г.в., 2, 2 куб см, газ-бензін, ц/з, велюр, шэры металік. Т. у Смаргоні 52112.
- Аўдзі 100, 1985 г.в., 1,9Б, АКПП, вэлюр, сярэбраны металік, г/у. Т. (8-029) 7072164.
- Аўдзі 100, 1989 г.в., 2,0 ТДІ, АБС, добры стан, цана 2700 у.а. Т. у Вілейцы 33260, (8-029) 7064907.
- Аўдзі 100, 1990 г.в., чорная, 2,3 л, інжэктар, поўны эл.пакет, сігналізацыя, літыя дыскі. Т. (8-029) 6721363.
- Аўдзі 80, 1988 г.в., колер белы, аб'ём 1800 см³, 5КПП, ідэальны стан. Т. (8-029) 6721125.
- Аўдзі 80, 1986 г.в., пераходная, 1,6 бензін, 1550 у.а. Т. у Вілейцы 59125.
- Аўдзі 80і, 1990 г.в., г/у, к/ф, ц/з, 2 гады ў РБ, 3000 у.а. Т. (8029) 7619543.
- Аўдзі 80, 1994 г.в., з Германіі, без прабегу па Беларусі. Т. у Маладзечне 69227, (8-029) 7694443.
- БМВ 318і, 1982 г.в., сіні. Т. у Маладзечне 30857, (8-029) 6582153.
- БМВ 318і, 90 г.в., універсал; гараж у ГБК–2. Т. у Вілейцы 58559.
- БМВ 524, 1987 г.в., стан добры, нядорага, запчасткі да БМВ 320, Опеля Асконы, Форда Сіеры. Т. У Вілейцы 53533, (8-029) 6862595.
- ВАЗ 2101, 1979 г.в., 500 у.а. Т. у Маладзечне 50032.
- ВАЗ 21011 па запчастках, ёсць усё. Т. (8-029) 6462185.
- ВАЗ 21013, 1985 г.в., 780 у.а., торг. Вілейка. Т. (8-029) 7667229.
- ВАЗ 21013, 1985 г.в., нядорага. Т. у Вілейцы 57206, (8-029) 6657206.
- ВАЗ 21013, 1982 г.в., цёмна-сіні, нов. гума, АКБ, рамонт рухавіка 04 г.+рухавік+запчасткі, добры стан. Т. (8-029) 6390302.
- ВАЗ 2104, 1986 г.в., 1,5Б, 5КПП. Т. у Маладзечне 45298, (8-029) 6451344.
- ВАЗ 21043, 1995 г.в., белы, новая гума, выдатны стан. Т. у Вілейцы 51832.
- ВАЗ 2106, 1992 г.в., 1180 у.а. Т. (8-029) 6138023.
- ВАЗ 2106, добры стан, 650 у.а., торг. Т. (8-029) 7699521, (8-029) 7032206.
- ВАЗ 21061, 1987 г.в., бэжавы, 1,5, 950 у.а. Т. у Маладзечне 63489.
- ВАЗ 21061, 1993 г.в., 1,5К. Т. у Маладзечне 66494, (8-029) 6993946.
- ВАЗ 21063, 1985 г.в., белы, 950 у.а. Т. у Вілейцы 56457, (8-029) 7077513.
- ВАЗ 21063, 1985 г.в., цана дагаворная. Т. у Вілейцы 63383.
- ВАЗ 21063, 1987 г.в, карычневага колеру. Т. у Маладзечне 66086.
- ВАЗ 21063, 1987 г.в., белы, 1,5, 950 у.а. Т. у Вілейцы 58308.
- ВАЗ 21063, 1990 г.в., 1,3 Б, светла–шэры, сігналізацыя, ц/з, выдатны стан, 1350 у.а., торг. Т. у Вілейцы 42316.
- ВАЗ 21063, 1987 г.в.. Т. у Ашмянах 42110, (8029) 6942110.
- ВАЗ 21063, 1990 г.в., ГБ, бэжавы; у добрым стане. Т. у Маладзечне 41021.
- ВАЗ 2107, 1984 г.в. Т. у Маладзечне 96668, (8-029) 5086257.
- ВАЗ 21099, 1995 г.в., 1550 у.а., торг. Т. у Вілейцы 46369, (8-029) 6944886.
- Вольву 340 седан, 1987 г.в., Пэжо 309, 1988 г.в., ВАЗ 21051, 1981 г.в.. Т. у Вілейцы 35512.
- Вольву 740, 1985 г.в., 2,4 дызель. Т. у Вілейцы 35125, (8-029) 7749088.
- КІА (кларус), 1997 г.в., 5100 у.а.; Форд Скорпіо, 2950 у.а, Івека 35-10, 1993; Мерседэс 308Д, 1992 г.в. Т. (8-029) 7696992, 7738294.
- Мазду 323F, 1995 г.в., 1,5Б, шэрая. Т. у Маладзечне 70206.
- Мазду 323, 1990 г.в., 1,6, 2000 у.а. Т. (8029) 6677018.
- Мазду 626, 1987 г.в., 2,0і, прычапное, сігналізацыя, 1150 у.а. Т. (8-029) 7081768.
- Мазду 626, 1995 г.в., 2.0 TD. Т. у Маладзечне 43016, (8-029) 6339259.
- Мазду 626, 1981 г.в., нядорага. Т. у Маладзечне 50276, 70919.
- Масквіч, Жыгулі, Опель Рэкорд па запчастках. Т. (8-029) 7755938.
- Масквіч 2140, ТА, страхоўка, фаркоп. Т. у Вілейцы 51805.
- Масквіч 2140, 1988 г.в. на запчасткі. Т. у Вілейцы 46274.



# Купон 39

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці робіце запасы на зіму?



**Анатоль Захарыч, пенсіянер:**

– Вось нядаўна перац марынаваў. Нам з жонкай 12 слоікаў розных "закатак" на зіму хапае. Дзецям не даём – у іх сваё ёсць. Кансервую я заўсёды сам, ніводны слоік яшчэ не ўзарваўся.



**Таццяна Маркава, інжынер радыёсувязі:**

– Садавіну, гародніну – усяго патроху – на два гады наперад хопіць. Толькі шкадую, што грыбоў мала назапасіла – 4 літры, летась 30 было. Сёлета нешта іх у лесе мала.



**Васіль Малахоўскі, трэцякурснік:**

– Раблю. Грошы. Хачу з'ездзіць на зімовых канікулах адпачыць у які-небудзь беларускі санаторый. Летам няма калі: гэтай парой больш магчымасцяў падпрацаваць.



**Алеся Лапшэвіч, навучэнка:**

– Агуркоў, буракоў, бульбы на нашую сям'ю з 4-х чалавек 4 тонны патрэбна. Мы вырошчваем у вёсцы ўсё самі. Яшчэ хачу кажух на зіму купіць. Грошы зараблю сама: неўзабаве практыка на фабрыцы "Бярозка" пачнецца, шыць буду.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| **Мінск** | 25.09 | 26.09 | 27.09 | 28.09 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +11 | +12 | +11 | +12 |
| ноччу | +7 | +8 | +9 | +9 |
| **атмасферны ціск**, мм | 735 | 738 | 738 | 741 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 3 | 2 | 1 | 2 |

| **Вільня** | 25.09 | 26.09 | 27.09 | 28.09 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +11 | +15 | +10 | +14 |
| ноччу | +8 | +9 | +10 | +9 |
| **атмасферны ціск**, мм | 740 | 745 | 746 | 747 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 3 | 1 | 1 | 3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Мядзельскі музей народнай славы папоўніўся трыма экспанатамі. У вітрыне, прысвечанай іудзейскай канфесіі, з'явіліся "Ханукія", шафар і касот-лейкідуш. Гэтыя сямейныя рэліквіі перадаў у музей грамадзянін Ізраіля Леў Гескін.**

## Гараскоп 25 – 30 верасня



**Авен (21.03–20.04)**

Вам будзе дадзена магчымасць праявіць цуды дыпламатыі і ўсякім чынам прадэманстраваць непахіснасць сваіх ідэалаў і перакананняў. Навакольныя, у сваю чаргу, глыбока пранікнуцца да вас павагай, ды так, што хутка такая назойлівая ўвага і захапленне пачнуць вас раздражняць. На ўласным фронце можа раптам з'явіцца дзіўны паклоннік, які літаральна не будзе даваць вам праходу.



**Цялец (21.04–21.05)**

Галоўная апора ў вашым жыцці цяпер – дом і сям'я. Асабліва гарманічнымі стануць узаемаадносіны з бацькамі. Вы цудоўна прадэманструеце здольнасць ператвараць любое месца ў падабенства ўтульнага дома. Вялікі аб'ём інфармацыі не зусім добра адаб'ецца на вашай самаацэнцы. Таму пазбягайце дваістых сітуацый і не мучце сябе, што не можаце маланкава прыняць правільнае рашэнне.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Упэўненасць і надзейнасць вы будзеце адчуваць пры ўсталяванні трывалых, узаемавыгадных партнёрскіх адносінаў. Пры гэтым не варта абмяжоўваць свае ўласныя інтарэсы і цалкам падпарадкоўваць жыццё рабоце. Адзінокія ў гэты перыяд могуць уступіць у шчаслівы шлюб. У духоўнай сферы вы нарэшце знойдзеце тую крыніцу ведаў, якая на доўгі час стане для вас невычэрпнай.



**Рак (22.06–23.07)**

Вы здольныя ўспрымаць любую інфармацыю са зносінаў, і нават з самай прымітыўнай размовы возьмеце нешта важнае. У вас, праўда, можа назірацца назойлівае жаданне ўсіх крытыкаваць і ўсім супярэчыць, але не ў якасці ўпартасці, а з вышыні сваіх ведаў. Дома ўсё спакойна і стабільна. Хтосьці са сваякоў настолькі вам удзячны, што можа пакінуць багатае наследства.



**Леў (24.07–23.08)**

Вы маеце цалкам вызначанае меркаванне аб усіх і аб усім. Ваша сям'я аказвае спрыяльны ўплыў на фарміраванне вашых каштоўнасцяў і ўсведамленне ўласных магчымасцяў. Але не трэба забываць, што галоўная роля ў захапляльнай аповесці пад назвай "жыццё" належыць усё ж такі вам, а не каму б там ні было іншаму, няхай нават больш сталаму і вопытнаму.



**Дзева (24.08–23.09)**

Вы паспяхова фарміруеце ўласную сістэму каштоўнасцяў. Вам неабходна зразумець свае слабыя і моцныя бакі. Галоўнае, не ісці на крайнасці і ведаць, калі трэба своечасова вярнуцца да рэальнага жыцця. Веды вы будзеце засвойваць хутка, але, праўда, даволі павярхоўна. Узнікне жаданне парысавацца і сыграць усёзнайку для таго, каб наладзіць кантакты з людзьмі, якія вас цікавяць.



**Шалі (24.09–23.10)**

Некаторае напружанне можа ўзнікнуць са сваякамі з-за розных поглядаў на жыццё. Хутчэй за ўсё, родныя будуць занепакоеныя вашым самаадчуваннем і знешняй стомленасцю. А вашы мары будуць скіраваны ў далёкае будучае, вы метадычна і мэтанакіравана будзеце прабірацца да сваёй запаветнай мэты. Дапамогу акажуць сябры і ваша бліжэйшае акружэнне.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Пастарайцеся не патраціць вялізныя сумы на нязбытныя планы і мары і аказацца недальнабачным у грашовых пытаннях: цяпер неабходна ведаць, дзе варта патраціць сродкі, а дзе сэканоміць. А таксама памятайце, што цяпер нестабільнасць у паводзінах будзе ісці не на карысць вашаму кашальку. Яшчэ вы можаце вырашыць, што вам не патрэбныя сябры, але гэта не зусім верна.



**Стралец (23.11–21.12)**

Чым хутчэй вы ўсвядоміце, што матэрыяльны дабрабыт не з'яўляецца вырашэннем усіх праблем, тым лягчэй вам будзе набыць рэальнае пачуццё свабоды і пазбавіцца ад фантомных планаў. Вас будуць прыцягваць людзі з характарамі і поглядамі, якія адрозніваюцца ад вашых уласных. Гэта сітуацыя толькі заахвоціць вас вучыцца і пазнаваць навакольны свет.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вы з вялікім задавальненнем будзеце імкнуцца прыцягнуць да сябе ўвагу іншых людзей. Знаходзіцца на віду ў грамадства і супрацьпастаўляць сябе іншым стане вашай унутранай неабходнасцю. Цеснае супрацоўніцтва з партнёрам як у каханні, так і ў бізнэсе будзе садзейнічаць поўнаму і яркаму праяўленню вашых талентаў і здольнасцяў.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Ваш аўтарытэт, сіла волі і здольнасць уплываць на людзей падвергнуцца праверцы. Вашы спробы паўплываць на ход падзей могуць аказацца дарэмнымі. Магчымы ўспышкі іпахондрыі, ляноты і апатыі, прыступы беспрычыннага страху і трывогі. Справіцца з гэтым дапамогуць спорт і кампанія вясёлых сяброў. Перыяд спрыяе ўнутранаму духоўнаму пошуку.



**Рыбы (20.02–20.03)**

У гэты перыяд вас можа вызначаць некаторая рамантычная выразнасць і арэол таямнічасці. Хутчэй за ўсё, менавіта гэта і будзе прыцягваць да вас навакольных. Вы з лёгкасцю можаце ўсталёўваць любыя кантакты. Грошы напрамую будуць залежаць ад вашай прывабнасці. Зоркі раяць з'ездзіць у адпачынак са сваёй другой палавінай ці заняцца сумесным відам спорту для ўмацавання здароўя абаіх.

■ ФОТАФАКТ

## Дваровыя нарыхтоўкі



**Сезон нарыхтовак – у разгары. Мядзелцы ў дварах сушаць цыбулю, часнок і фасолю.**

Фота Святланы ЦІШКО.

■ ЖАНОЧЫ ФУТБОЛ

## Найлепшая нападаючая чэмпіянату

**МАЛАДЗЕЧНА. На чэмпіянаце Беларусі па футболе "Скураны мяч" сярод дзяўчынак 1990-93 гадоў нараджэння Мінскую вобласць прадстаўляла каманда Маладзечна.**

Чэмпіянат праходзіў 14-17 верасня ў Пружанах. Гулялі па кругавой сістэме. Маладзечанская каманда заняла 4 месца, прайграўшы камандам Мінска, Віцебскай і Гродзенскай абласцей. "Цяжка пасля лета", – сказаў у інтэрв'ю "РГ" трэнер каманды Сяргей Ляшчынскі. – Дзяўчатам не хапіла фізічнай падрыхтоўкі". У першай гульні з Віцебскай вобласцю, ведучы 3:1, за 7 хвілін прапусцілі 2 мячы – нічыя. Гэтых ачкоў не хапіла пасля, каб стаць другімі.

Па выніках чэмпіянату Вольга Цярэшка з СШ№14 стала найлепшай нападаючай. Яна атрымала прыз і ўвайшла ў склад маладзёжнай зборнай 1989-90 гадоў нараджэння.

За некалькі дзён да гэтых спаборніцтваў каманда Маладзечна заняла 3 месца на фестывалі жаночага футбола, прысвечанага 50-годдзю УЕФА, у Мінску.

**Святлана ЦІШКО.**

Рэгіянальная газета

Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227 ад 19.08.2003 г. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 5 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 9100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. № 39 (490) 24.09.2004. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 2891. Падпісана ў друк у 13.00 23.09.2004

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **4-71-00**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by



Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444